ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№6 (2512)

6 лютага 1997 г.

Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

**«ЧАРНОБЫЛЬСКІЯ» ДЗЕЦІ: ЧЫЕ ЯНЫ?**

## НЕ ВАРТА РАБІЦЬ ВЫГЛЯД, ШТО ЎСЁ МІНУЛА

**Летась Беларусь адзначала сумную дату — дзесяць год як здарылася аварыя на Чарнобыльскай атамнай станцыі. Здавалася б, час мінуў немалы, але гэта толькі на першы погляд. Вынікі катастрофы для нашай краіны такія маштабныя, што будуць адбівацца на жыцці людзей яшчэ і дваццаць, і трыццаць, і пяцьдзесят год... У якім жа стане знаходзіцца сёння справа дапамогі тым, хто на сабе і сваіх блізкіх адчуў увесь жах чарнобыльскай трагедыі? Як Беларусь ратуе самых безабаронных ахвяр радыяцыйнага забруджвання — сваіх дзяцей? Адказаць на пастаўленыя і іншыя пытанні пагадзіўся чалавек, які ведае праблему не па чутках, які шмат уласных сіл аддаваў і аддае выратаванню "чарнобыльскіх", як іх цяпер завуць, хлопчыкаў і дзяўчынак. Наш субяседнік — прафесар, старшыня Беларускага дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобыля" Генадзь ГРУШАВЫ.**

*— Генадзь Уладзіміравіч, ваша шырокая вядомасць у краіне звязваецца, у першую чаргу, з арганізацыяй шматлікіх дабрачынных акцый па аздараўленню дзяцей з раёнаў, забруджаных радыяцыяй. Гэта і сёння асноўны клопат?*

— Сапраўды, грамадскае ўяўленне пра дзейнасць фонду "Дзецям Чарнобыля" прыкладна такое. Але на справе з самага пачатку ўзнікнення нашай арганізацыі, з 89-га года, галоўнай задачай было максімальнае ініцыіраванне грамадскага руху самадапамогі па ўсёй Беларусі. Хаця, канешне, было таксама вельмі важна стварыць шэраг праграм з удзелам замежных партнёраў, якія мелі рэальную магчымасць падтрымаць і сродкамі — медыкаментамі, вітамінамі, дзіцячым харчаваннем, і арганізацыяй аздараўлення непасрэдна ў замежжы.

Але зноў падкрэслю: больш за ўсё мы хацелі навучыць людзей саміх дапамагаць сабе.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

*ВЫСТАВА Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫМ МАСТАЦКІМ МУЗЕІ*

## БЕЛАРУСКІ ХЛАПЧУК — ТАЛЕНАВІТЫ РУСКІ МАСТАК

Цікавай падзеяй у Мінску сталася адкрыццё ў галерэі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі выставы маскоўскага мастака Сяргея Палякова. Ён нарадзіўся ў 1956 годзе ў Гомелі, але грунтоўную мастацкую адукацыю атрымаў у Маскве, дзе пастаянна пражывае. Спачатку Сяргей там вучыўся ў дзіцячай мастацкай школе, потым — у Мастацкім вучылішчы памяці 1905 года і, нарэшце, скончыў Маскоўскі дзяржаўны інстытут імя Сурыкава. У пачатку 90-х быў прыняты ў Міжнародную федэрацыю мастакоў пры ЮНЕСКА. За вельмі кароткі час пасля заканчэння адукацыі — яго першая персанальная выстава (1990 год) адбылася ў Маскве — набыў вядомасць у далёкім замежжы. Напрыклад, у ЗША меў ажно шэсць выстаў, адна з іх была ў Мецы сучаснага мастацтва — галерэі раёна Соха (г. Нью-Йорк). Яго творы мелі вялікі поспех у гледача.

Спонсарамі выставы былі Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь, галерэя Вольгі Хлебнікавай у Маскве і холдзінгавая кампанія "Деловая Москва". Перад адкрыццём выставы адбылася кароценькая прэс-канферэнцыя. На адкрыцці прысутнічалі Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Расіі Валерый Лашчылін (дарэчы, ён калісьці вучыўся ў Белдзяржуніверсітэце), уладальніца вышэйзгаданай маскоўскай галерэі, прадстаўнік холдзінгавай кампаніі "Деловая Москва", прадстаўнікі Міністэрства культуры Беларусі, журналісты, мастакі і мастацтвазнаўцы Беларусі.

Ствараецца ўражанне, што адкрыццё выставы быццам спецыяльна прымеркоўвалася да дня паспання Прэзідэнта Расіі Ельцына Прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку аб паскарэнні аб'яднаўчых працэсаў, якія павінны прывесці да стварэння адзінай дзяржавы нібы на падставе мінулай еднасці старажытных славян. Гэтая думка прагучала і ў прывітальным выступленні прадстаўніка "Деловой Москвы", які шчыра адзначыў, што яму прыемна бачыць у творах С. Палякова праявы рысаў "славянскага чалавецтва", уласнае бачанне, мастаком свету і "выдатнейшы прыём", аказаны маскоўскаму мастаку.

Нам, мінчанам, таксама было вельмі прыемна ўбачыць незвычайныя колерава-пластычныя фантазіі таленавітага рускага мастака, трынаццаць гадоў дзяцінства якога прайшло ў Беларусі. Але нам не зусім зразумелым засталося вызначэнне выступоўцы "славянскае чалавецтва", як і твор С. Палякова пад назвай "Славянскія матывы" (1993—1995 гады). На ім адлюстраваны элементы рускіх вышываных арнаментаў, напісаных у арыгінальнай аўтарскай глянцава-рэльефнай тэхніцы. Паколькі славянамі з'яўляюцца прадстаўнікі многіх еўрапейскіх этнасаў — украінцы, беларусы, рускія (іх называюць "усходнімі"), палякі, чэхі, славакі, сербы-лужычане, кашубы (іх называюць "заходнімі"), балгары, сербы, харваты, славенцы, македонцы, басняк і (іх называюць "паўднёвымі"), то зразумела, што ў кожнага з іх ёсць свае арнаментальныя матывы, як і своеасаблівая матэрыяльная і мастацкая культура, бо паміж іх жывуць германцы, балты, эсты і інш., не славяне.

Але гэтая нязначная заўвага не зніжае агульнага добрага ўражання ад знаёмства з творчасцю таленавітага мастака, да таго ж нашага земляка.

Выстава з'яўляецца рэтраспектыўнай, на ёй прадстаўлены творы, напісаныя ў 1989—1996 гадах. Відавочна, што з дзяцінства самасвядомасць будучага мастака фарміравалася пад уплывам казачных сюжэтаў, а пазней ужо ў час

**НА ЗДЫМКУ: адкрыццё выставы Сяргея ПАЛЯКОВА ў галерэі Нацыянальнага мастацкага музея.**

**(Працяг на 7-й стар.).**



***Эдварду ВАЙВАДЗІШУ — настаўніку і паэту з беларускага Прыдзвіння ў Латвіі — 5 лютага 1997 года споўнілася 100 гадоў***



**Эдвард ВАЙВАДЗІШ у маладосці.**

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА**

### НА СЛЫННЫ ЮБІЛЕЙ ЭДВАРДА ВАЙВАДЗІША

**Высокі беларускасці касцёр**
**Раздзьмуты адраджэння ветрам свежым,**
**Касцёр да неба рукі распасцёр,**
**Нібы касцёл свае ўздымае вежы.**

**Цяпло ад беларускасці кастра**
**Нам не скалець, людзьмі быць памагае.**
**Заранка, быццам родная сястра**
**Таго кастра, шугае па-над гаем.**

**Купальскі беларускасці касцёр**
**Асветнікі распальвалі руплівa,**
**І Вайвадзіш усё сваё жыццё**
**Яго ахоўваў, зберагаў цярпліва,**

**Радкамі паэтычнымі яго**
**Святочнае гарэнне падтрымоўваў,**
**І сёння сэрца ў свой сто першы год**
**Лагодзіць трапяткою роднай мовай...**

**...Нагнаць спрабуюць цемрашалы страх.**
**Усявышні ж нам акажа дапамогу:**
**Бо іскры беларускасці кастра —**
**Надзея ёсць — запалі ў сэрца Богу...**

*(Артыкул С. Панізьніка "Край, багата адароны...", прысвечаны Э. Вайвадзішу, змешчаны на 5-й стар.).*

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА



Рабочая сустрэча Старшыні Савета Рэспублікі Паўла Шыпука з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Казахстана ў Беларусі Юрыем Клачковым адбылася 29 студзеня.

Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, галоўнымі тэмамі гутаркі былі пытанні, звязаныя з агульнай мытнай палітыкай дзвюх дзяржаў і пляцажамі за пастаўку беларускіх тавараў у Казахстан і казахстанскіх — у Беларусь.

Юрый Клачкоў праінфармаваў Паўла Шыпука аб дзейнасці, функцыях і паўнамоцтвах парламента Казахстана, а таксама выказаў надзею, што кантакты паміж прадстаўнікамі заканадаўчых органаў дзвюх краін пойдуць на карысць народам Беларусі і Казахстана.

НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы.

З ПАСЯДЖЭННЯ ПРЭЗІДЫУМА СМ

## УРАД ВЫРАШАЕ ХАРЧОВУЮ ПРАБЛЕМУ

З усіх пытанняў, унесеных для абмеркавання 28 студзеня ў парадак дня пасяджэння Прэзідыума Савета Міністраў, бадай, найболып актуальным было пытанне аб забеспячэнні насельніцтва краіны харчовымі таварамі. І, мяркуючы па выступленнях міністра гандлю Пятра Казлова, старшыні Белкаапсаюза Віктара Уладыкі, віцэ-прэм'ера Васіля Даўгалёва і іншых, становішча з напаўненнем прылаўкаў магазінаў прадуктамі харчавання апошнім часам крыху стабілізавалася.

Але па-ранейшаму нездаволенасць пакупнікоў выклікаюць цэны. Напрыклад, кошт аднаго кілаграма імпартнага масла падскочыў у сталіцы да 78 тысяч рублёў. Таму, дэталёва прааналізаваўшы сітуацыю, удзельнікі пасяджэння прыйшлі да высновы аб неабходнасці адмены на гэты від прадукту падатку на дабаўленую вартасць, што дасць магчымасць зрабіць яго крыху таннейшым. Акрамя таго, трэба будзе ўшчыльную заняцца адпаведным службам і праблемай цэнаўтварэння. Таму што нямала выпадкаў, калі кошт вырабаў не заўсёды адпавядае рэальным затратам.

Да гэтага часу яшчэ вострай застаецца праблема з цукрам. Сотні тысяч тон яго ў свой час нашы вытворцы рэалізавалі камерцыйным фірмам. А тыя перапрадалі прадукт за межы рэспублікі. Цяпер жа прыходзіцца дзяржаве зноў закупляць цукар за мяжой, але ўжо па больш высокаму кошту. Да таго ж, як адзначыў старшыня Мінгарвыканкома Уладзімір Ярмошын, чуткі аб дэфіцыце цукру і магчымым падаражанні пасадзейнічалі таму, што толькі ў студзені яго было раскуплена ў пяць разоў больш, чым у той жа месяц год назад. Але і гэта пытанне, як кажуць, будзе вырашана ўжо ў бліжэйшыя дні.

Па-ранейшаму крыху беднаваты асартымент мясных вырабаў. Адчуваюцца перабоі з варанай каўбасой, паўфабрыкатамі.

Паводле слоў выконваючага абавязкі прэм'ер-міністра Сяргея Лінга, забеспячэнне насельніцтва прадуктамі харчавання знаходзіцца пад пастаянным кантролем урада. Для паляпшэння сітуацыі, напрыклад, трэба будзе вызначыць сыравінныя зоны для кожнага перапрацоўчага прадпрыемства, што дасць магчымасць працаваць ім на поўную магутнасць. А самі прадукты будуць паступаць на экспарт толькі пасля насычэння імі мясцовага рынку. Неабходна таксама перагледзець цэны на сухія віны і іншыя вырабы, а таксама мадэрнізаваць тытунёвую вытворчасць.

На пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў быў адобраны план падрыхтоўкі асноўных праектаў законаў у гэтым годзе і на перспектыву.

ПАГРОЗА ДЭФІЦЫТУ ХАРЧАВАННЯ

## ВЫВАЗ ПРАДУКТАЎ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Стыхійны экспарт прадуктаў харчавання на бяскрайні расійскі рынак працягваецца.

Толькі за 15 дзён студзеня супрацоўнікам міліцыі ўдалося спыніць вываз з Беларусі камерцыйнымі структурамі і асобнымі грамадзянамі прадуктаў харчавання на суму больш як 2,7 мільярда рублёў. У тым ліку 287 галоў жывёлы, 194 тоны мясапрадукцыі, больш за 13 тон масла, 4,8 тоны іншых малочных прадуктаў, звыш 40 тысяч яек.

Апошнім часам апроч мяса-малочнай прадукцыі пачаўся таксама масавы вываз у Расію камерцыйнымі фірмамі мукі і мучных вырабаў.

Беларусі пагражае дэфіцыт прадуктаў харчавання.

З ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ

## АБ АХВЯРАХ ПАЛІТЫЧНЫХ РЭПРЭСІЙ

У мэтах завяршэння рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій, што мелі месца ў Рэспубліцы Беларусь, і аднаўлення сацыяльна-палітычных і грамадзянскіх правоў людзей, якія пацярпелі ад рэпрэсій, Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь сваім указам пастанавіў: прадоўжыць тэрмін работы па рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій, устаноўлены заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, да 1998 года ўключна.

Ураду даручана забяспечыць фінансаванне расходаў, звязаных з прадаўжэннем работы па рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій.

Міністэрства ўнутраных спраў, Камітэт дзяржаўнай бяспекі, Вярхоўны суд, пракуратура, мясцовыя выканаўчыя распарадчыя органы абавязаны прыняць неабходныя меры для завяршэння рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій ва ўстаноўлены тэрмін.

ГРАНТ 1 МІЛЬЁН ДОЛАРАЎ



Вельмі дарэчы прыйшоўся грант ад Глабальнага экалагічнага фонду ў суме 1 мільён долараў ЗША, прадастаўлены Беларусі Міжнародным банкам рэканструкцыі і развіцця для рэалізацыі праекта "Ахова біялагічнай разнастайнасці лясоў Белавежскай пушчы" на тэрыторыі нашай рэспублікі. У нацыянальным парку "Белавежская пушча" працуе навуковы аддзел са сваім камп'ютэрным цэнтрам, усе камп'ютэры для якога набыты ў вядомай амерыканскай фірмы "Хьюліт-Пакард".

НА ЗДЫМКУ: пры дапамозе аднаго з самых магутных камп'ютэраў для кіраўніка аддзела Ігара РАМАНЮКА і старшага лабаранта Алы ШОСТАК цяпер не праблема і стварэнне макет-карты пушчанскіх лясоў, на якой адлюстравана да ста розных параметраў.

ПАМЯЦЬ ЖЫВЫХ



Мемарыяльная дошка Васілю Іванавічу ІГНАЦЕНКУ ўстаноўлена ў Мінску, на вуліцы, якая цяпер носіць яго імя.

Васіль Ігнаценка нарадзіўся ў вёсцы Спярыжжа Брагінскага раёна. Ён быў сяржантам унутраных службы і працаваў пажарнікам на Чарнобыльскай АЭС — быў камандзірам аддзялення ваенізаванай пажарнай часці па ахове горада Прыпяць. У ліку першых яго нарад у той ракавы красавіцкі дзень прыбыў па трывозе на чацвёрты энергаблок Чарнобыльскай АЭС. Не лічачыся са смяротэльнай небяспекай, ва ўмовах крайне высокай радыяцыі, байцы яго аддзялення пачалі тушэнне агню і ліквідавалі пажар на даху машыннай залы чацвёртага энергаблока, спыніўшы тым самым разрастанне маштабаў вынікаў катастрофы.

Ад атрыманага апраменьвання Васіль Ігнаценка і яго таварышы памерлі праз 18 дзён у спецыялізаваным ваенным шпіталі ў Маскве. Ён пахаваны на Міцінскіх могілках у Маскве ў ліку 28 першых ахвяр чарнобыльскай катастрофы.

Васіль Ігнаценка пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Баявога Чырвонага Сцяга і украінскім Крыжам "За мужнасць".

Сваім подзвігам беларус Васіль Ігнаценка адкрыў першую старонку ў летапісе гераічнага ўдзелу нашых суайчыннікаў у ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

Ва ўрачыстым адкрыцці мемарыяльнай дошкі ў Мінску прымалі ўдзел маці Васіля Ігнаценкі, М. Ігнаценка, сваякі, грамадскасць сталіцы, салдаты і афіцэры ўнутранай службы мінскіх часцей.

НА ЗДЫМКУ: у час урачыстага адкрыцця мемарыяльнай дошкі герою-пажарніку Васілю ІГНАЦЕНКУ ў Мінску.

ПЕРАКАНАННЕ

## СЁННЯШНІ ПАРЛАМЕНТ ЛЕГІТЫМНЫ

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка не згодны са сцвярджэннем апазіцыі аб неправамоцнасці цяперашняга парламента краіны — Нацыянальнага сходу.

Аб гэтым заявіў міністр замежных спраў Беларусі Іван Антановіч, спасылаўшыся на выказванні Аляксандра Лукашэнкі ў ходзе яго перагавораў з дэлегацыяй экспертаў Еўрапейскага саюза, Савета Еўропы і Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе, якая прыбыла ў Мінск для вывучэння палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы.

А. Лукашэнка лічыць, паведаміла агенцтва Інтэрфакс, што "цяперашні парламент рэспублікі легітымны", таму што ніжняя яго палата назначана з ліку дэпутатаў, раней выбраных у Вярхоўны Савет.

МІГРАЦЫЯ

## ДАДАТНАЕ САЛЬДА

Як паведамілі ў Міністэрстве статыстыкі Рэспублікі Беларусь, механічны прырост за мінулы год склаў у рэспубліцы 8 тысяч чалавек. Па папярэдніх даных, у 1996 годзе 29 тысяч чалавек прыбыло ў рэспубліку і 21 тысяча яе пакінула. Станоўчае сальда міграцыі абумоўлена зніжэннем колькасці тых, хто выбыў з Беларусі ў Расію і на Украіну. У 1995 годзе колькасць выбыўшых склала 35 тысяч чалавек і на 200 чалавек перавысіла колькасць прыбыўшых.

АПАЗІЦЫЯ

## УСЁ ПАЧЫНАЕЦЦА СПАЧАТКУ

25 студзеня ў Мінску адбылася першая ў гэтым годзе апазіцыйная акцыя пратэсту. Каля трох тысяч грамадзян, пераважна моладзь, прайшлі па праспекце Францішка Скарыны, вуліцы Янкі Купалы да опернага тэатра, дзе правялі мітынг у абарону незалежнасці Беларусі і ў падтрымку народаў Сербіі і Балгарыі, якія змагаюцца за дэмакратыю.

Калоны дэманстрантаў былі ўпрыгожаны не толькі бела-чырвона-белай сімволікай і транспарантамі, але сербскімі і балгарскімі сцягамі, лозунгамі. Маладыя мінчане па прыкладу бялградцаў экіпіраваліся свісткамі, трашчоткамі, дудкамі, што суправаджалі шэсце неверагодным шумам. Мінская моладзь выказвала сваё захапленне перамогамі сафійцаў і бялградцаў. Транспаранты заклікалі да падобнага развіцця падзей і ў нас.

— Сафія і Бялград — гэта праобраз нашага шляху. У лістападзе мы былі блізкія да перамогі, цяпер трэба пачынаць усё спачатку. Свабодны народ можа нарадзіцца толькі на вуліцах Мінска, — заявіў падчас мітынгу адзін з лідэраў Беларускага народнага фронту Юрый Хадыка.

Кіраўніцтва БНФ лічыць, што ў цяперашніх умовах, калі легальныя магчымасці палітычнай барацьбы практычна адсутнічаюць, вулічны пратэст набывае асаблівае значэнне.

Акцыя 25 студзеня закончылася паходам часткі дэманстрантаў, прыблізна каля паўтысячы, да расійскага пасольства, дзе актыўна выкрыкваліся антырасійскія лозунгі.

# НЕ ВАРТА РАБІЦЬ ВЫГЛЯД, ШТО ЎСЁ МІНУЛА



(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

— *Такім чынам, вы ставіце задачу стварыць пэўную сістэму?*

— Хутчэй рух, удзельнікі якога добра разумелі б і нагадвалі б усім астатнім: без аб'яднання сіл як дзяржаўных, так і грамадскіх Чарнобыль ніколі не перастане быць пагрозай для жыцця і здароўя людзей.

— *А ці не даводзіцца, у такім выпадку, вам прымаць на сябе функцыі дзяржавы?*

— Зноў-такі, усё склалася даволі аб'ектыўна. Памятаеце, у 88-89-м гадах менавіта грамадскі рух, па-першае, дапамог разбурыць тую сцяну замоўчвання, што была ўзведзена вакол чарнобыльскай трагедыі, а па-другое, стварыць моцную грамадскую апазіцыю. А таму не дзіўна, што на пачатковым этапе сярод нашых памочнікаў былі ў асноўным урачы, настаўнікі, работнікі культуры, навукі, якія добра ўяўлялі, якую небяспеку нясе Чарнобыль ім і, найперш, іх дзецям. Праўда, пазней, асабліва калі я быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета, даводзілася максімальна скарыстоўваць і магчымасці дзяржавы, бо такія буйныя праграмы, як, скажам, перасяленне, забеспячэнне бальніц чарнобыльскай зоны неабходным сучасным абсталяваннем, насельніцтва — чыстымі прадуктамі харчавання, — усё гэта ніводная грамадская арганізацыя і ўвогуле ўсе яны, разам узятыя, выканаць нездольныя. А таму значную работу прыйшлося праводзіць у дзяржаўных структурах. На жаль, з горыччу павінен канстатаваць, што на працягу апошніх двух год у даным пытанні назіраецца моцны адкат: усё, што было напрацавана ў плане дзяржаўных падыходаў у вырашэнні чарнобыльскіх праблем, зараз пераглядаецца і адмяняецца. Зразумела, чаму так робіцца: недахоп матэрыяльных сродкаў вымушае дзяржаву эканоміць. Ну а тут, здавалася б, гэта прасцей, чым дзе. Радыяцыя нібы адышла на другі план, наконт знешняга апраменьвання настала нейкая стабілізацыя. Ну а тое, што сёння ўяўляе сабой здароўе сотні тысяч людзей у забруджанай зоне… Гэта нібыта размываецца ў агульным дрэнным становішчы нацыі — амаль суцэльнай недастатковасці, беднасці, а нярэдка нават і жабрацтве.

У выніку, калі ласка, — у лістападзе 1995-га прымаецца новая канцэпцыя, адпаведна якой насельніцтва зон забруджання ад аднаго да пяці кюры практычна страчвае колькі-небудзь сур'ёзную дзяржаўную падтрымку — па сутнасці такія тэрыторыі ўжо аб'яўляюцца як бы зусім чыстымі. Наступны крок можна было назіраць нядаўна. Пры абмеркаванні новага бюджэту прапанавана скараціць менавіта надзвычайны чарнобыльскі падатак. А на фоне ўсяго гэтага апошнім часам людзей, якія жывуць у чарнобыльскіх раёнах, здолелі пераканаць, і, я лічу, свядома, мэтанакіравана, што Чарнобыль — толькі кармушка для некага, крыніца зусім неабавязковых датацый, кампенсацый, ільгот. Таму многія перасяленцы, страціўшы ўсялякую надзею на лепшае, гатовы вярнуцца ў хай сабе і забруджаныя, але родныя вёскі і хаты. Больш таго, сёння мы назіраем вельмі небяспечную дзяржаўную палітыку падтрымлівання, заахвочвання такіх настрояў: маўляў, вяртайцеся, а мы будзем інвесціраваць тыя тэрыторыі, ствараць новыя працоўныя месцы, гэта ж ваша радзіма… І гэта пры тым, што вопыт усіх дзесяці год пасля аварыі, шматлікія заключэнні міжнародных экспертаў зноў і зноў сцвярджаюць: не толькі для цяперашняга пакалення, але і пакаленняў нашых дзяцей і ўнукаў Чарнобыль застанецца крыніцай велізарнай небяспекі. І калі сёння спрабаваць рабіць выгляд, што ўсё ў мінулым, значыць зноў і зноў ахвяраваць здароўем і самімі жыццямі беларускіх дзяцей.

— *Як вы ўвогуле ацэньваеце сучасны стан аздараўлення чарнобыльскіх дзяцей? Даводзіцца чуць, што яны і іх бацькі робяцца нават капрызнымі — патрабуюць адпачынак толькі ў далёкім замежжы…*

— Сапраўды, падобныя размовы ходзяць, і пад імі ёсць рэальная аснова. Аднак неабходна ўлічваць, чаму так адбываецца. Прычын некалькі, і галоўная — з 91-га года рэзка зменшылася магчымасць пайнавартаснага санаторнага аздараўлення дзяцей, якое дагэтуль звычайна праходзіла таксама за межамі Беларусі ў так званых усесаюзных здраўніцах. У нас жа ў краіне ўласна дзіцячых санаторыяў не больш дзесятка, астатняе — наспех пераабсталяваныя турыстычныя базы, пансіянаты, піянерскія лагеры. І калі бацькі і дзеці параўноўваюць умовы адпачынку ў іх з тым, што ў стане забяспечыць прымаючы бок у далёкім замежжы, то, безумоўна, перавага аддаецца апошняму, дзе дзецям вельмі цікава, яны камфортна адчуваюць сябе, выдатна харчуюцца, а таму і аздараўленчы эфект значна вышэйшы. Дабіцца ж якаснага спалучэння эмацыянальнага і фізічнага ўздыму ва ўмовах Рэспублікі Беларусь з кожным годам усё цяжэй і цяжэй. А таму, мабыць, не варта спяшацца абвінавачваць чарнобыльцаў у "збалаванасці". Яны хочуць сваім дзецям лепшага.

Але ў данай праблемы ёсць яшчэ адзін аспект. З самага пачатку аздараўленне за мяжой разглядалася намі як свайго роду рэзервовы варыянт, які даваў дзяржаве своеасаблівую фору ў часе, каб пабудаваць і абсталяваць сапраўды якасныя дзіцячыя санаторыі ў самой Беларусі. Планавалася, на гэта спатрэбіцца пяць-сем год. Але ж тыя "першыя" чарнобыльскія дзеці чакаць столькі не маглі, урэшце, яны проста выраслі б, так і не атрымаўшы сапраўднай дапамогі. Вось для іх аздараўлення мы і распачалі актыўную работу з замежнымі партнёрамі па ўсім свеце. І трэба зноў і зноў дзякаваць добрым людзям у многіх і многіх краінах, якія паклапаціліся пра маленькіх гасцей з практычна невядомай ім Беларусі як пра сваіх уласных. Дарэчы, цяжка ўявіць сабе тую сапраўды "берлінскую" сцяну, якую трэба было разбураць нашым энтузіястам, каб у 1990-м годзе першыя шэсць з паловай тысяч беларускіх дзяцей з забруджаных раёнаў змаглі выехаць на адпачынак у еўрапейскія краіны. З таго часу гэтая лічба значна вырасла.

— *Гэта тым больш важна, што новыя ўласныя санаторыі так і засталіся толькі на паперы…*

— На жаль, планаваная праграма аказалася вельмі дрэнна выкананай. Нельга сказаць, што нічога ўвогуле не рабілася. У пераабсталяванне і перапрафіліраванне ўжо існуючых лячэбных і аздараўленчых устаноў дзяржава ўклала нямала грошай. Але ўсё гэта складала ў лепшым выпадку толькі пятую-шостую частку таго, што ў 90—91-м здавалася проста мінімальнай нормай. А ў выніку сёння так званае аздараўленне чарнобыльскай дзятвы ідзе ў большасці ў піянерскіх лагерах. Вы ўяўляеце, што гэта за ўзровень? Многія такія лагеры знаходзяцца ў рысе горада, нават не выносяцца за межы таго раёна, адкуль бяруцца дзеці. Для арганізатараў робіцца важным чыста колькасны паказчык. Але летась і такая, досыць умоўная форма аздараўлення ахапіла толькі 55—57 працэнтаў чарнобыльскіх хлопчыкаў і дзяўчынак. Так што сёння мала хто на дзяржаўным узроўні адважыцца заводзіць размову пра якасць адпачынку, тут ужо хаця б які забяспечыць. А перасяленцы ў большасці ўвогуле не маюць магчымасці аздараўляць дзяцей за дзяржаўны кошт. Вось такая сітуацыя, вельмі, я сказаў бы, нярадасная.

— *Сярод тых, хто звяртаецца да вас па дапамогу, мабыць, шмат такіх, хто ўжо паспеў атрымаць ад дзяржавы, як кажуць, ад варот паварот?*

— Практычна ўсе. Дарэчы, так мы і раслі. Гэта сёння наш фонд сапраўды вялікая арганізацыя, якая ажыццяўляе дзесяткі праграм, абапіраецца на падтрымку шматлікіх партнёраў, і некаму здаецца, што так было заўсёды. Але не. Напачатку было тры, потым 10, 15 чалавек, якія па ўласнай ініцыятыве аб'язджалі забруджаныя вёскі, знаходзілі людзей, што страцілі надзею атрымаць дапамогу ад дзяржавы, але мелі ў ёй вялікую патрэбу. Скажу больш, недзе з года 92-га ўжо і сама дзяржава (Дзяржкамчарнобыль, Мінздраў, сацыяльныя міністэрствы) стала звяртацца да нас з тымі ці іншымі просьбамі.

— *А самі яны чым-небудзь дапамагаюць фонду?*

— Наш фонд нарадзіўся ў той перыяд, калі дзяржава прызнавала толькі адну форму грамадскіх арганізацый — гэта арганізацыі, якія з'яўляюцца нібыта "адросткам", дадаткам да якіх-небудзь дзяржаўных структур, напрыклад, той жа Дзіцячы фонд або Камітэт абароны міру, Фонд здароўя… Ім і перападае пэўная доля падтрымкі. Мы ж узніклі ўпершыню як сапраўды незалежная, самастойная грамадская ініцыятыва. Першыя тры гады ўсе правяраючыя, усе людзі ў дзяржструктурах, да якіх я звяртаўся, сустракалі адным пытаннем: "А хто вас заснаваў?" Калі я адказваў: "Мы самі", хвілін пяць мяне проста не разумелі: "Ну добра, самі, але якое міністэрства?" Пасля ж таго, як прыходзіла разуменне, што ніякага ведамства за фондам не стаіць, адразу складваліся адпаведныя адносіны: ходзяць тут нейкія самазванцы, замінаюць пад нагамі. І гэта яшчэ добра. А магло быць і так: развялі для сябе нейкую там "маліну", хочуць нешта "адхапіць". Вось у такім рэжыме фактычна ў адзіноце наш фонд праіснаваў амаль два гады. Гэта ўжо пазней чарнобыльскія арганізацыі пачалі расці, як грыбы пасля дажджу. На сёння іх каля высьмідзесяці — рэспубліканскіх, абласных, гарадскіх, раённых. З іх каля сямідзесяці, да якіх наш фонд меў тое ці іншае дачыненне. Напрыклад, у Нароўлі за тры гады сфарміравалася такая моцная ініцыятыўная група, што было цалкам заканамерна прадставіць ім поўную самастойнасць. Прычым такое адбываецца не толькі ў гарадах. У невялікай вёсцы Роўкавічы ў Чачэрскім раёне таксама працуе выдатны актыў. Яны маюць прамыя кантакты з Японіяй, Канадай, Германіяй, Ірландыяй, Італіяй, Швецыяй… Вось вам і маленькія Роўкавічы. І што толькі не рабілі мясцовыя ўлады, каб падмяць гэтую ініцыятыву, яна тым не менш жывая і дзейнічае.

Я раней перажываў, але потым стаў ганарыцца, што фонд "Дзецям Чарнобыля" ніколі не ўключалі ў спіс ільгатыруемых па падаткаабкладанню грамадскіх арганізацый, нават тады, калі я сам быў дэпутатам парламента і браў удзел у гэтых дэбатах. Спісы даходзілі да 100—120 арганізацый, але наша выключалася з яго заўсёды. Па той прычыне, маўляў, што дзяржава не можа нас кантраляваць. Але гэта няпраўда. Нас кантралююць, ды яшчэ як: 3—4 праверкі штогод — норма. А летась, мабыць, у сувязі з дзесяцігоддзем падзей увогуле вырашылі паказаць, дзе пяты вугал. Вось такая дапамога. Гэта ж абсурд: дзяржава не дае грошай, ніякіх ільгот, не бярэ на сябе нават крыху нейкай работы, але пры тым прысвойвае сабе права, скажам, візіраваць нашы спісы тых, хто выязджае на аздараўленне… Колькі пры гэтым чыноўнікі ставяць сваіх асабістых патрабаванняў, літаральна выкручваюць рукі. І нікуды не дзенешся, калі без іхніх подпісаў не здасі дакументы на афармленне ў МЗС ці АВІР.

— *Генадзь Уладзіміравіч, ці не адбіваецца негатыўна на адносінах дзяржструктур да дзейнасці фонду ваша асабістая рэпутацыя палітычнага апазіцыянера? Як вядома, у мінулым лістападзе вас абралі дэпутатам новага парламента, але Цэнтрвыбарккам адмовіўся прызнаць вашы паўнамоцтвы.*

— Ёсць і такое. Але і для мяне, і для фонду гэта ўжо звыклае становішча. У 1989-м годзе наш рух зыходзіў з асноўных мэт і задач, якія ставіў Беларускі народны фронт. Я ніколі гэтага не забываю і ні ад кога не хаваю. Мы былі і застаемся дзецьмі таго часу і ганарымся ім, як ганарацца сваімі гадамі шасцідзесятнікі. Што тычыцца нашай дзейнасці ў розных рэгіёнах Беларусі, то нярэдка яна ўспрымаецца як нейкі падрыў уладных асноў, бо дзяржава ўсё болей і болей імкнецца падпарадкаваць сабе жыццё краіны і кожнага асобнага чалавека ў ёй. Мы ж супрацьўляемся, таму і процістаянне не толькі не знікае, а нават і мацнее. Хаця наш фонд не толькі не робіць нічога дрэннага, але нават і дапамагае дзяржаве, здымаючы з яе плеч значную колькасць цяжару сацыяльнага клопату, перакладаючы на сябе вырашэнне праблем соцень людзей, якія ў іншым выпадку ішлі б з імі да дзяржчыноўнікаў.

Цікавы факт. Пасля вяртання з арганізаванага фондам замежнага адпачынку шмат удзячных пісьмаў ідзе не ў фонд, а ў адрас дзяржавы і прэзідэнта. Больш таго, нашым супрацоўнікам нават абуральна кажуць: а вы тут пры чым?! Вось бывае і так. Застаецца толькі сумна ўсміхнуцца і працаваць далей.

— *Генадзь Уладзіміравіч, наколькі я ведаю, сярод вашых дабрачынных памочнікаў ёсць і нашы замежныя суайчыннікі?*

— Так, безумоўна. У 1990-м годзе я ўпершыню прыехаў на амерыканскі кантынент. Тады паўночнаамерыканскія беларусы сабралі сродкі, за якія былі набытыя медыкаменты. У Канадзе ўзнікла арганізацыя, якую ўзначалілі Івонка і Янка Сурвілы, дзе работа вядзецца і па сённяшні дзень. Зіна Гімпелевіч, Алекс Каваленка, Барыс Рагуля — гэта той актыў вялікай арганізацыі, якая рэгулярна штогод прымае ў госці сотні беларускіх дзяцей. Дарэчы, іх дзейнасць падтрымлівае і ўрад Канады, і канадская прэса, і простыя канадцы. З добрым пачуццём кажу пра "Полацак", пра цудоўную жанчыну, урача Марыю Дзямковіч. Згадваю, як нечакана атрымаў у 1990-м годзе пасылку з полівітамінамі ад спадара Грушы з Аўстраліі, дарэчы, потым такія пасылкі дасылаліся ім яшчэ і яшчэ, а набывалася ўсё за ўласныя сродкі. Нельга не падзякаваць айцу Аляксандру Надсону з Англіі, які прыязджаў сам сюды. Шмат слоў падзякі заслугоўваюць усе яны.

— *З вашага пункту гледжання, чые ўсё ж яны, "чарнобыльскія" дзеці?*

— Дзяржава кажа — дзяржаўныя. Але я лічу: яны дзеці нашага грамадства, якое павінна ні на мінуту не забываць: менавіта ад цяперашніх хлопчыкаў і дзяўчынак залежыць будучыня Беларусі XXI стагоддзя.

**Гутарку вяла**
**Галіна УЛІЦЁНАК.**

---

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

## СУМНАЯ ПЕСНЯ

Старажытны
сумны край палескі,
Вось і дачакаўся ты
вясны…
Каля ўзлескаў
першыя пралескі…
Ды радыеактыўныя
яны!
Ды радыеактыўныя
яны…

Сумнаю
бядою-лебядою
Зарастае поле
без вайны…
Б'юць крыніцы
светлаю вадою…
Ды радыеактыўныя
яны!
Ды радыеактыўныя
яны…

На радзіму
птушкі прылятаюць,
А з зямлі,
без жалю,
без віны
Людзі птушак
стрэламі "вітаюць"…
Бо радыеактыўныя
яны!
Бо радыеактыўныя
яны…

Тут у бездань раптам
паляцела
Паміж дабрынёй
і злом
сцяна…
Тут
сама прырода звар'яцела…
Бо радыеактыўная
яна!
Бо радыеактыўная
яна…

Каб такому больш
не паўтарыцца,
Людзі,
трэба біць
ва ўсе званы!
Ды маўчаць
счарнелыя званіцы…
Бо рыдыеактыўныя
яны!
Бо разрабаваныя
яны…
Намі зруйнаваныя
яны…

## ГОСЦЬ РЭДАКЦЫІ

# НЕПАДЗЕЛЬНЫЯ, ЯК МАЦІ І ДЗІЦЯ

Сустрэчы з чытачамі газеты заўсёды радуюць і натхняюць, бо лішні раз пераконваешся, што працуем мы не для нейкіх уяўных асобаў, а для шчырых беларусаў, якія, хоць і жывуць па-за межамі сваёй Бацькаўшчыны, ды цікавяцца яе справамі, жыццём на яе абшарах. Такой прыемнай была сустрэча з беларусам з Манчагорска, сталым чытачом "Голасу Радзімы", палітолагам, выкладчыкам інстытута Аляксандрам ПЯТРУННІКАВЫМ. Ён прыйшоў у рэдакцыю, каб выказаць падзяку за газету, якая дапамагае яму падтрымліваць сувязь з Беларуссю. Расказаў наш госць і пра сябе. Родам Аляксандр Пятруннікаў са Жлобіншчыны, дзе і цяпер бывае штогод. Жыццёвыя абставіны закінулі яго ў Мурманскую вобласць, дзе ў філіяле Санкт-Пецярбургскага горнага інстытута ён выкладае гісторыю Расіі і філасофію. Вучыўся А. Пятруннікаў у Беларусі, скончыў Гродзенскі педагагічны інстытут і аспірантуру Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі.

— Беларускасцю я захварэў з даўняга часу, яшчэ калі вучыўся ў вясковай школе, — расказваў пра сябе наш госць. — І праявілася ў мяне гэта ў любові да мовы, бо лічу, што мова і народ непадзельныя, як маці і дзіця. Мова — гэта не штучнае ўтварэнне. Яе фарміраванне — працягла гістарычны працэс, і ступень развіцця мовы адлюстроўвае ступень развіцця народа. Гавару гэта як філосаф, як дыялектык.

Дык якую ж выснову можна зрабіць з таго, што я сказаў пра мову? Калі недаразвіты народ, то такая ж яго і мова. І, гаворачы, што наша мова грубая, недасканалая, недаразвітая, працўнікі беларускай мовы гэтым самым сцвярджаюць, што і народ наш такі самы.

Як вядома, Беларусь, як народ, яго гісторыя заўсёды неслі на сабе адбітак нейкай трагічнасці. І я маю на ўвазе не частыя войны і фізічнае вынішчэнне беларусаў. Проста той, хто быў ва ўладзе, ніколі не лічыў беларусаў самастойным этнасам і, зыходзячы з гэтага, імкнуўся звузіць выкарыстанне беларускай мовы.

Ну вось, прыкладам, калі я ў 1956 годзе скончыў школу, і я, і кожны выпускнік ведалі, што для паступлення ў вышэйшую навучальную ўстанову нам спатрэбіцца толькі руская мова. Мы лічылі, што і ў жыцці беларуская мова нам не спатрэбіцца. Да нядаўняга часу, прыязджаючы ў Беларусь і гаворачы ўсюды на сваёй роднай мове, адчуваў, што людзі глядзяць на мяне і думаюць, хто ён: пісьменнік або нацыяналіст? Вялікі рускі пісьменнік Цютчаў пісаў: "Умом Россию не понять", а Беларусь дык і ўвогуле цяжка зразумець.

— Вы так даўно пакінулі Беларусь і ўсё ж захавалі і дасканалую родную мову, і цікавасць да яе не губляеце. Як вам гэта ўдаецца?

— Найперш, сачу за ўсімі працэсамі, што тут адбываюцца. Зберагчы любоў да ўсяго свайго мне дапамагае вялікае жаданне не растварыцца сярод іншых народаў, захаваць сваю адметнасць. Гэта для мяне як пажыва.

— Вы выкладаеце гісторыю Расіі і, мяркуючы па вашых словах, робіце гэта паспяхова. А наколькі глыбокія вашы веды па гісторыі Беларусі?

— Ёсць тут праблемы. Але пачынаючы з таго моманту, калі Беларусь пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай увайшла ў склад Расійскай імперыі, гісторыю нашу, зразумела, у галоўных напрамках ведаю нядрэнна.

— Будучы патрыётам Беларусі, але жывучы ў Расіі, як ставіцеся вы да рускай мовы і наогул да ўсяго рускага?

— Мая паўсядзённая мова руская, я карыстаюся ёю і на рабоце, і дома. Шчыра лічу, што руская мова — адна з самых магутных і самых прыгожых моваў у свеце. Лекцыі, што чытаю студэнтам, маюць два напрамкі. Першы — выхаванне сумленных грамадзян Расіі, узбагачэнне іх гістарычнымі ведамі аб іх Радзіме. Другі напрамак — гэта выхаванне ў маіх студэнтаў павагі да Беларусі і беларускага народа. Іншы раз знарок выкарыстоўваю на сваіх лекцыях беларускія словы, знаёмлю студэнтаў з нашай гісторыяй. І жартам магу дадаць: студэнты, зыходзячы з маіх расказаў, лічаць, што Жлобін і Гомель — самыя лепшыя гарады ў свеце.

— Што вы думаеце аб сучаснай Беларусі?

— Я магу думаць на падставе таго, што чытаю ў расійскай прэсе. А яна мае шмат напрамкаў: дэмакратычная, ярка выражаная нацыяналістычная, камуністычная. І кожная па-свойму аналізуе падзеі на Беларусі. Камуністычная і нацыяналістычная стаяць на тым, што Беларусь павінна ўвайсці ў склад Расійскай Федэрацыі. Дэмакратычная лічыць, што Беларусь павінна застацца самастойнай, але блізкай саюзніцай Расіі, як, напрыклад, ЗША і Англія або ЗША і Ізраіль.

Мне цяжка зразумець эканамічныя працэсы, што тут адбываюцца, аднак хацеў бы падкрэсліць наступнае: у Расіі, хай сабе і ў дзікім выглядзе, існуе капіталізм. І таму спадзяванні беларусаў, што калі яны ўвойдуць у склад Расіі, то будуць мець танныя энерганосьбіты і іх прадукцыя знойдзе попыт на расійскім рынку, наіўныя. Справа ў тым, што ў Расіі даўно ўжо за ўсё трэба плаціць. У пачатку мінулай восені Манчагорск быў на мяжы замярзання. У ВНУ заняткі праводзіліся ў халодных аўдыторыях, студэнты сядзелі ў верхняй вопратцы. Прычына такога становішча — адсутнасць мазуту, а грошай гарадская адміністрацыя не мела. У мінулым годзе ў газеце "Беларуская ніва" быў артыкул, дзе аўтар пісаў, што галёшы, выпускаемыя ў Крычаве, будуць мець попыт у Расіі, а не на Захадзе. Душэўная прастата! Прадпрыемствы і грамадзяне Расіі будуць набываць толькі тое, што ім патрэбна і што адпавядае сусветным стандартам, і для іх не мае значэння, адкуль тавар прывезлі — з Беларусі ці з Захаду.

— Што новага вы заўважылі гэтым разам у сваіх родных мясцінах, наогул у Беларусі?

— Здзівіла, што раптам усё зноў перайшло на рускую мову. У маёй раённай газеце "Новы дзень" толькі назва засталася на беларускай мове. Не ведаю, чым такое становішча выклікана, але мяне яно абурае. Днямі ехаў у прыгарадным цягніку Жлобін—Гомель, побач са мной сядзелі вучні старшых класаў, і ад іх я таксама пачуў, што ім гэта не падабаецца. Як тут не ўспомніць словы Леніна пра тое, што будучыня належыць усё-такі маладым...

Дзіяна ЧАРКАСАВА.

## ІКОНА ГАЎРЫІЛА ГЕРАКОВА



**Акрамя вядомай Веткаўскай стараверскай школы іканапісу, на Гомельшчыне існавала яшчэ адна — у Чачэрскім раёне. У вёсцы Бабічы гэтым промыслам займалася некалькі чалавек, сярод якіх было два браты — Гаўрыіл і Уладзімір Гераковы, работы якіх вызначаліся высокім майстэрствам выканання. У Бабічах і цяпер жывуць сваякі гэтых майстроў, якія нядаўна перадалі ікону Гаўрыіла Геракова Чачэрскаму раённаму музею.**

**НА ЗДЫМКУ: падараваная ікона.**

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.

## З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

# НА МЯЖЫ ЎСЁ СПАКОЙНА

У канцы студзеня старшыня Дзяржаўнага камітэта пагранічных войск Рэспублікі Беларусь генерал-маёр Аляксандр Паўлоўскі расказаў журналістам аб стане спраў на дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь, у прыватнасці, аб стане на беларуска-ўкраінскім участку мяжы, разгледжаным на сустрэчы прэзідэнтаў дзвюх краін у Гомелі. Агульная працягласць нашых межаў складае 3 381 кіламетр. Агульная працягласць ахоўваемых межаў — 1 167 кіламетраў. За 1996 год праз гэтую мяжу рэспублікі было прапушчана звыш 16 мільёнаў чалавек і каля 4 мільёнаў адзінак транспарту. У мінулым годзе было затрымана звыш трох тысяч чалавек, з іх больш 30 працэнтаў — прадстаўнікі афра-азіяцкага рэгіёна. У 1996 годзе прыбытак ад нелегальнай міграцыі склаў адсямі да дзесяці мільярдаў долараў. Пагранічнікі маюць даныя аб зрошчванні расійскіх, беларускіх, літоўскіх і ўкраінскіх крымінальных структур, што займаюцца нелегальнай міграцыяй. Кантрабанда была затрымана ў 533 выпадках на агульную суму звыш 9 мільярдаў рублёў і ў 6 выпадках была затрымана валюта на суму 65 тысяч долараў ЗША. За мінулы год пагранічнікі затрымалі звыш сарака кілаграмаў наркатычных сродкаў. Было выяўлена 277 тайнікоў і сховішчаў, дзе хаваліся людзі, валюта і кантрабанда.

— Самы складаны ўчастак для нас, — сказаў Аляксандр Паўлоўскі, — гэта работа на пунктах пропуску. За мінулы год там было выяўлена больш дваццаці тысяч чалавек з няправільна аформленымі дакументамі, з якіх дзесяць з паловай тысяч мы праз мяжу не прапусцілі. У васьмістах адзінаццаці выпадках былі затрыманы грамадзяне, якія спрабавалі перасячы мяжу па падробленых пашпартах.

Асабліва генерал Паўлоўскі спыніўся на пытанні ўзаемаадносін з Украінай, паколькі, як ён заўважыў, "у некаторых сродках масавай інфармацыі выказана не зусім правільнае разуменне вынікаў апошняй сустрэчы паміж нашымі ведамствамі, якая ажыццяўлялася ў рамках сустрэчы прэзідэнтаў дзвюх краін". Яшчэ не завершана дэлімітацыя і дэмаркацыя агульнай мяжы. На сёння гэты працэс падыходзіць к канцу, і на прайшоўшай рабочай сустрэчы было прынята рашэнне, на падставе якога ў другім квартале 1997 года паміж нашымі краінамі будзе падпісаны дагавор аб мяжы. Пагранічныя войскі Беларусі дзяржаўную мяжу з Украінай не ахоўваюць, функцыі аховы эканамічных інтарэсаў дзяржавы на гэтым участку мяжы выконваюць падраздзяленні і органы дзяржаўнага таможнага камітэта і Міністэрства ўнутраных спраў. У мэтах рэалізацыі пагаднення паміж пагранічнымі войскамі абедзвюх дзяржаў ажыццяўляецца абмен інфармацыяй у інтарэсах аховы мяжы і наладжана супрацоўніцтва ў пытаннях забеспячэння бяспекі грамадзян. У выніку рабочай сустрэчы прэзідэнтаў Рэспублікі Беларусь і Украіны было падпісана камюніке, дзе, у прыватнасці, было адзначана, што "бакі... пацвердзілі гатоўнасць завяршыць у бягучым годзе працэс дэлімітацыі. Бакі пагадзіліся з неабходнасцю актывізаваць дзейнасць па процідзеянню нелегальнай міграцыі, па барацьбе з тэрарызмам, кантрабандай, незаконным абаротам зброі і наркотыкаў і іншымі відамі трансгранічнай злачыннасці".

Старшыні камітэтаў па ахове дзяржаўных межаў дзвюх краін падпісалі пратакол, у якім было адзначана, што ў працэсе развіцця ўзаемаадносін на мяжы ўзнікла неабходнасць стварэння інстытута пагранічнага прадстаўніцтва для вырашэння спрэчных пытанняў, што ўзнікаюць на мяжы. "Гэты пратакол прадугледжвае, — падкрэсліў генерал Паўлоўскі, — толькі расшырэнне супрацоўніцтва паміж нашымі ведамствамі".

У сувязі з пытаннямі аб расшырэнні НАТО на Усход камандуючы заўважыў, што нашы межы як заходняя, так і прыбалтыйская не з'яўляюцца і не будуць жалезнай заслонай і якіх-небудзь дадатковых мер па ўмацаванню гэтых межаў не плануецца, а ўжо існуючыя на ўчастку мяжы з Польшчай інжынерна-тэхнічныя збудаванні будуць стаяць толькі да заканчэння тэрміну іх тэхнічнай эксплуатацыі. Узмацненне аховы мяжы плануецца ажыццяўляць толькі ў напрамку забеспячэння эканамічнай бяспекі дзяржавы на мяжы. Падобна, што краіны Захаду нарэшце зразумелі, з якой мяжы трэба пачынаць клопат аб сваёй бяспецы, і ў хуткім часе згодна з законам Нана-Лугара беларускім пагранічнікам будзе аказана дапамога на аснашчэнні тэхнічнымі сродкамі ў памеры некалькіх мільёнаў долараў. На пытанне аб магчымай прысутнасці расійскіх войск на беларускай мяжы камандуючы адказаў, што "Расія на нашай мяжы пагранічнікаў не выстаўляла... і ніякіх дазораў, пастоў, пунктаў пропуску няма — і не будзе". Не ставіцца пытанне і аб аб'яднанні пагранічных войск дзвюх дзяржаў. Затое магчымасць увядзення пагранічнага падатку на беларускай мяжы зусім рэальная. "Я думаю, што было б справядліва, калі б пэўны падатак забіраўся на карысць пагранічнікаў, як гэта робіцца ва ўсім свеце. Мы шукаем той шлях, які быў бы прымальны для Беларусі, і я думаю, што ў красавіку—маі мы выкажам сваё меркаванне наконт гэтага пытання. Аднак мы лічым, што такі падатак павінен быць мінімальным і не быць на шкоду тым, хто перасякае мяжу".

Вераніка ЧАРКАСАВА.

# «КРАЙ, БАГАТА АДАРОНЫ...»

Для мяне самае радаснае ў сённяшняй плыні часу гаварыць пра дажытае стагоддзе чалавека-творцы. Бо пры такой нагодзе адчуваецца: юбілей-спраўджанасць сыходзіцца з сімваламумоўнасцю і Вечнасць адкрывае сваю патаемную існасць: усе высілкі — недарэмныя, кожны зрух душы і надзённая чыннасць узважваюцца на шалях быцця. Здзяйсняй — і табе аддзячыцца!

Доўгі творчы век Эдварда Вайвадзіша ўразіў мяне не толькі разумным і ашчаслівленым Богам фізічным існаваннем. Яго зямны промысел — вучыцялёўства, настаўніцтва на жыццё парасткаў народа — дзяцей. І дзяцей не самай радаснай долі — отмаладзі вясковага люду. І адросткаў такога люду, які населены Валадаром Сусвету на дзіўным, своеасаблівым мацерыку, пад незастыглай і да сённяшняга дня магмай нацыянальных разломаў.

А краіна Стаўраў-Гаўраў, дзе нарадзіўся Эдвард Вайвадзіш у вёсцы Вайвады пад Індраю, гэта краіна крывіцка-латгальскага сумежжа, гэта сённяшняе беларуска-латышскае пагранічча. Да азначэнняў гэтае зямлі могуць дапасавацца і словы Якуба Коласа:

**Тут схадзіліся плямёны**
**Спрэчкі сілаю канчаць,**
**Край, багата адароны (...)**

Зямля Мары прыняла заступніцтва святое Ефрасінні... Стрывала тэўтонскую навалу... Пад назовам Інфлянты паланізавалася, у складзе Віцебскай губерні Расіі — русіфікавалася. З 1920 года паветы, перададзеныя маладой Латвійскай дзяржаве, зазналі адразу беларусізацыю і латышызацыю.

Курганы ў вадастоку Дзвіны-Даўгавы ёсць і такія: над балцкім культурным слоем — славянскі (крывіцкі). Нядаўна, каб сцвердзіць свае здагадкі, запытаўся ў археолага Валянціны Вяргей: "То каму ж належаць спадкі курганоў?" — "Яны — усіхнія..." — лагодна і памяркоўна адказала даследчыца.

У наш час, наскрозь спалітызаваны, азмрочаны крывавымі рэлігійнымі, міжнацыянальнымі звадамі, адзінае суцяшэнне — уразумець, што і такое міралюбнае сумежжа, як радзіма Эдварда Вайвадзіша, мае культурна-гістарычную спадчыну з тым жа самым мудрым, бесканфліктным азначэннем: усіхняя. Беларускі пур-беркавец латгальскага духоўнага набытку ствараў у меру сваіх сілаў і магчымасцяў сам Эдвард Вайвадзіш. Ясная памяць ацалелага сведкі, непагасная стваральніцкая дзея і абавязалі мяне выявіць і зафіксаваць такую яго дзялянку ўзнёслага клопату, як вершатворчасць. Напісанае настаўнікам і паэтам Эдвардам Вайвадзішам было ўпершыню прадстаўлена "Голасам Радзімы" (а ў Латвіі "Голасам Беларуса" 1926 года). Вершы, паэма, згадкі з каментарыямі летась выдадзены асобным зборнікам у Скарынаўскім цэнтры (Мінск) дзякуючы дабрадзейнасці яго вучня Францішака Бартуля з Нью-Йорка.

Не буду паўтараць ні свае развагі з пасляслоўя да кнігі, ні ўспамін паэта. Толькі ўзнаўлю такія радкі Эдварда Людвігавіча: "А мне ўдавалася спалучаць і павагу да Латвійскай дзяржавы, і любоў да беларушчыны". Гэтую жыццёвую выснову лічу ці не самым галоўным запаветам нашаму агаломшанаму дню. І пакуль існуюць граніцы, пакуль у сваіх межах дабудоўваюцца нацыі, даспяваюць грамадствы да супольнага сужыцця, у кожнай дзяржаве трэба лагодзіць інтарэсы тытульнай нацыі з самавыяўленчымі патрэбамі меншасцёвых суполак. На прамінулых этапах палітычных ураўнаважванняў Латвіі спрыялі райнісаўскія традыцыі паразумення, добразычлівасці, апякунства ў стасунках з беларускім культурна-асветным рухам. Выдаткі ўладаў на аўтаномію вярталіся прыбыткам: прызнанне краіны другой радзімай (лаяльнасць), цяга-ахвота самадастаткова акрэсленай меншасці ў культуру тытульнай нацыі (інтэграцыя). У плоць Латвіі ўліліся і сілы самога Эдварда Вайвадзіша — настаўніка і кіраўніка школак, краязнаўца, службоўца, у рэшце рэшт — гаспадара-земляроба. Латвіі паслужыў талент многіх узгадаванцаў беларускай сябрыны латгальскай усіхнасці — С. Сахарава, К. Езавітава, У. Пігулеўскага, М. Калініна, П. Масальскага, Н. Мікалаевай-Камісар, В. Вальтара, П. Мірановіча, А. Салаўёва, В. Вайцюлевіч...

Жыццястойкасць Эдварда Вайвадзіша, прыклад яго творчага даўгалецця даў мне яшчэ адзін шанец на вяртанне ў культурны ўжытак беларускай нацыі творчых наробкаў яго землякоў. А ён агромністы! На Беларусі сёння нават не ўяўляюць памеры духоўнага патэнцыялу латгальскіх беларусаў. Няхай сціплая кніга Эдварда Вайвадзіша паслужыць імпульсам нашай зацікаўленасці раманам Віктара Вальтара "Роджаныя пад Сатурнам" (ёсць надзея выдаць кнігу да 95-годдзя аўтара), паэзіяй П. Масальскага (Пятра Сакола), Валянціны Казлоўскай, Міколы Талеркі, размаітай спадчынай К. Езавітава, палотнамі Аркадзя Салаўёва (памёр у Празе), П. Мірановіча (памёр у Нью-Йорку), акварэлямі Міхала Калініна (памёр у Рызе)... Усе яны (а многія не названы) паходзяць з латгальскага сутоку. І лепшыя пярлінкі іх творчага натхнення праменяцца на Латвію, на Беларусь, глядзяць у вочы ўсяму свету. Яны — нашыя, яны — усіхнія!

Папярэдзе гэтай кагорты творцаў ужо асветлены юбілейнай нагодаю Эдвард Людвігавіч Вайвадзіш — у сваім шчаслівым перадграмнічным стапецці. І зусім не выпадкова.

Зычу шаноўнаму спадару Вайвадзішу дачакацца Юр'евай расы, паклікаць сваіх пчолак з вулляў. Усё астатняе — за маладзейшымі.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК,**
**старшыня Рады таварыства "Беларусь — Латвія".**

**Да віншаванняў і зычанняў Сяргея Панізьніка з радасцю далучаецца і ўся рэдакцыя "Голасу Радзімы". Здароўя і цёплай вясны, Эдвард Людвігавіч! Спадзяемся, што і вершы яшчэ напішуцца.**

# СУВЯЗНЫ ПАКАЛЕННЯЎ

5 лютага спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння слыннага беларускага асветніка, грамадскага дзеяча і паэта Эдварда Вайвадзіша, жыхара вёскі Вайвады Краслаўскага раёна, што ў Латвіі. Ён разам з Кастусём Езавітавым, Сяргеем Сахаравым, Пятром Саколам (Масальскім), Пятром Мірановічам, Паўлінай Мядзёлкай і іншымі прымаў актыўны ўдзел у беларускім адраджэнскім руху 20-х — пачатку 30-х гадоў. Ён з'яўляецца адным з аўтараў паэтычнага зборніка "Першы крок", што ў 1921 годзе выйшаў у Рызе. На працягу ўсяго свайго жыцця Эдвард Вайвадзіш, цярпліва несучы свой крыж (апошнім часам ён страціў нагу, пачаў губляць зрок), не выпусціў з рук сцяг беларускасці. І вось у мінулым годзе пабачыў свет зборнік вершаў, паэмы і згадак Эдварда Вайвадзіша, 7-га лютага ў пасёлку Індра (валасным цэнтры) пройдзе ўрачысты вечар, прысвечаны прэзентацыі гэтага зборніка і 100-гадоваму юбілею яго аўтара. Сябры "Уздыму", супрацоўнікі Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе, старшыня таварыства дружбы "Беларусь — Латвія" паэт Сяргей Панізьнік (рэдактар і ўкладальнік гэтага зборніка), якія разам з Краслаўскім раённым саветам з'яўляюцца арганізатарамі і ўдзельнікамі вечара, зычаць Вам, дарагі Эдвард Людвігавіч, моцнага здароўя, бадзёрасці духу і новых творчых здабыткаў на ніве беларускай паэзіі.

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**

г. Даўгаўпілс.

## НАШЫ ГАРАДЫ



Віцебск зімні. Фота Аляксандра ХІТРОВА.

## СПАДЧЫНА

# ТРОХІ ПРА М. ЗАБЭЙДУ-СУМІЦКАГА

НА ТАПАНІМІЧНАЙ камісіі гарвыканкома разгледжана пытанне аб пераназве вуліц Маладзечна, якія насілі прозвішчы дзеячаў былой камуністычнай дыктатуры. Цяпер яны пераназваны ў гонар славутых дзеячаў беларускай гісторыі і культуры: Язэпа Лёсіка, Францыска Скарыны, Ігната Буйніцкага, Кастуся Астрожскага, Уладзіміра Галубка, Язэпа Драздовіча. Вуліца ж імя Чапаева цяпер будзе насіць прозвішча выдатнага сына нашага народа, сусветна вядомага спевака Міхала Забэйды-Суміцкага. Тут, у Маладзечне, у 1909—1911 гадах ён вучыўся ў настаўніцкай семінарыі, з нашага горада пачаўся творчы шлях Міхала Іванавіча ў вялікае мастацтва.

Мне пашчасціла некалі бачыць славутага спевака, чуць яго чароўны голас.

Тады, у 1961 годзе, я вучыўся на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта. А ў вольны ад заняткаў час хадзіў на рэпетыцыі ў студэнцкі хор. Нашым спеўным калектывам кіраваў тады славуты Рыгор Шырма. Вядома, маючы такога знакамітага мастацкага кіраўніка, хор стаў вядомы не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. І хутка яму было прысвоена званне народнай харавой капэлы.

Аднаго разу Рыгор Раманавіч прыйшоў на рэпетыцыю ў нейкім святочным і ўзнёслым настроі. Калі мы падрыхтаваліся развучваць новую народную песню, ён абвёў нас сваім бацькоўскім позіркам і ўрачыста-таямнічым голасам сказаў:

— Да нас з Прагі прыехаў на гастролі выдатнейшы беларускі спявак Міхал Забэйда-Суміцкі. Спявак сусветнай славы. Я маю некалькі запрашальных білетаў на яго канцэрт, які адбудзецца ў актавай зале кансерваторыі. Усіх парадаваць не магу, але тыя з вас, хто акуратна наведваў усе рэпетыцыі, змогуць заўтра пачуць голас знакамітага спевака.

Мы пачалі распытваць у Рыгора Раманавіча пра Забэйду-Суміцкага, прозвішча якога мы чулі першы раз, пра яго спеўныя поспехі, але ён больш адмоўчваўся, толькі паведаміў, што спявак апынуўся на чужыне не па сваёй волі. Мы здагадаліся, што мастацкаму кіраўніку не хацелася казаць пра цяжкі і пакутлівы лёс М. Забэйды-Суміцкага, шмат гаварыць пра яго вялікі талент, адданасць Бацькаўшчыне, якую ён панёс у сэрцы праз усё жыццё, любоў да роднай песні і матчынай мовы. Нічога дзіўнага тут не было: тым часам у былой БССР набірала сілу дэнацыяналізацыя.

Пад канец нашай гутаркі Рыгор Раманавіч прызнаўся:

— З Міхалам Іванавічам я знаёмы даўно. Яшчэ з Вільні. Гэта было пры польскім часе. Пасля кожнага канцэрта студэнты-беларусы выносілі яго з залы на руках.

— А тут, у Мінску, могуць цяпер вывесці пад рукі, — няўдала пажартаваў нехта з нас.

Рыгор Раманавіч спахмурнеў і змоўк.

У той вечар пашчасціла: адно запрашэнне наш мастацкі кіраўнік працягнуў мне. Я з нецярплівасцю чакаў заўтрашняга дня, каб пайсці на канцэрт.

Кансерваторская зала не змагла ўмясціць усіх, хто жадаў паслухаць голас знакамітага спевака. Не выклікала сумненняў, што ўлады знарок выбралі для канцэрта Забэйды-Суміцкага гэта невялічкае памяшканне, каб туды трапіла абмежаванае кола людзей. Ды і сачыць за паводзінамі людзей было лягчэй.

Спяваў замежны артыст — госць на сваёй роднай зямлі — прачула і натхнёна сакоўным першым тэнарам. Яго рэпертуар быў насычаны арыямі з опер, чэшскімі, польскімі песнямі. Але асаблівую ўвагу і сваё спеўнае майстэрства ён аддаваў матчынай роднай песні. Часта, праспяваўшы беларускую песню, даставаў з кішэні хустачку і прыкладаў яе да вачэй. Зала горача яму апладзіравала. Пасля кожнай песні і апладысментаў знакаміты спявак звяртаўся да слухачоў, расказваў сваю творчую біяграфію. А часта кідаў у залу і крытычныя заўвагі пра тое, што дзеецца ў роднай яму Беларусі.

Па-майстэрску выканаўшы "Зялёны дубочак", ён раптам звярнуўся да слухачоў:

— Вось мой акампаніятар, чэх, пахадзіў сёння па вуліцах Мінска, паслухаў, як тут людзі гавораць, і кажа мне: "Пан Міхал, я не ведаю, куды мы прыехалі на гастролі. У вашую Беларусь ці ў Расію? Тут жа ўсе гавораць па-расійску. Можа, мы памыліліся і не ў той цягнік ускочылі?"

Зала пасля гэтых слоў сціхла, нібы замёрла. Але ненадоўга. Хутка з першых крэслаў пачуўся цвёрды і рэзкі голас:

— В самом деле, вы сели не в тот поезд!

Прыхільнікаў таленту выдатнага спевака і патрыётаў Бацькаўшчыны, што сабраліся тут, нібы кіпнем абдалі. Стала сорамна, балюча і крыўдна за тых людзей, якія прыйшлі сюды, выконваючы заданне абразіць, збэсціць спевака. Але Забэйда-Суміцкі не разгубіўся:

— Я еду ў правільным накірунку, да сваёй Радзімы. Гэта вы не туды прыехалі і спыніліся не на тым прыпынку.

У адказ зала ўзарвалася апладысментамі.

З таго часу мінула шмат гадоў. Распалася нарэшце савецкая імперыя. Пачала ажыццяўляцца мара спевака, гарачага патрыёта М. Забэйды-Суміцкага: яго родная Беларусь абвешчана незалежнай дзяржавай. Пачала ўзнаўляцца яе сапраўдная, а не ўяўная гісторыя. У выдавецтвах пабачылі свет кнігі пра славутых дзеячаў нашай гісторыі і культуры, пачалі выходзіць кнігі аўтараў беларускага замежжа. Імёны слаўных сыноў нашай краіны закрасаваліся ў назвах вуліц, плошчаў, школ і ўстаноў. Толькі чамусьці ні ў адным горадзе ці мястэчку Беларусі, якую так шчыра любіў М. Забэйда-Суміцкі і працаваў на яе славу і гонар, няма вуліцы, якая б ушаноўвала яго светлую памяць. Не знойдзеце вы гэтае светлае імя ні на адной шыльдзе культурных устаноў рэспублікі. Не ўбачыце і кружэлкі з запісам спеўнай спадчыны нашага славутага земляка.

Міхал Забэйда-Суміцкі жадаў, каб пасля смерці ягоны архіў быў перададзены на Радзіму. Воля спевака была выканана, але шырокая грамадскасць рэспублікі нічога не ведае пра далейшы лёс архіва. Дзе ён? Хто працуе з матэрыяламі нашага нацыянальнага генія? Даўно ўжо настаў той час, калі на аснове фактычнага матэрыялу, які захаваўся ў архіве, можна было напісаць цікавую і вельмі патрэбную для ўсіх нас кнігу.

**Мікалай КАПЫЛОВІЧ.**

# НА СКРЫЖАВАННІ

Я некалькі разоў парушаў хparty храналогію, бо адразу ўсяго, што было за многія гады знаёмства, не ўспомніш і не "ўтопчаш" у гэтыя старонкі. Выпадкова трапіў даўні забыты блакнот 1963 года. Адгарнуў і натрапіў на такі запіс: "Увечары 12 красавіка пазваніў Броўка і запрасіў заўтра раніцаю разам паехаць да яго на дачу. На другі дзень у 10 гадзін раніцы я быў каля яго дома. Пятрусь ужо шнураваў каля пад'езда. Праз некалькі хвілін спынілася машына. З яе выйшаў малодшы брат Петруся Сцяпан і шафёр Іван Францавіч. Сцяпан з кватэры вынес некалькі пакункаў, паклаў у багажнік, і мы паехалі. За Ждановічамі звярнулі на лясную, яшчэ прыцярушаную мокрым снегам дарогу. На ўзлеску, метраў за сто ад вадасховішча, — тры прасторныя з бярвення дамы — дачы Глебкі, Крапівы і Броўкі. Чуваць, як шуміць Мінскае вадасховішча. За варотамі звініць ланцугом і пабрэхвае вялікі сабака Жук. Як толькі пазнаў гаспадара, завіляў хвастом і пачаў лашчыцца. На вільготнай клумбе праклюнуліся зялёныя кіпцікі нарцысаў, апушыліся зялёным туманком кусты парэчак і агрэсту, на кустах набраклі вострыя пупышкі бэзу. Сад і агарод невялікія, добра дагледжаныя вартаўніком і гаспадарамі. Разгрузіліся. Пятрусь наказвае брату: "Сцёпачка, натаркуй бульбы на дранікі, звары, звары капусты, як мама некалі варыла, а мы паходзім па беразе".

Шпацыравалі даволі доўга па пругкім вільготным пяску. Лёд ужо сышоў, за смугою ледзь бачны другі бераг, накочваюцца і шумяць хвалі, плюскочуць аб вецце падмытых і зваленых старых хвояў.

У прамовах і ў большасці твораў Броўка непахісны камуніст, а ў гаворках адзін на адзін добра разумее хібы і балячкі тае артадаксальнай дэмагогіі і практыкі. Ён не раз казаў, што трэба перагледзець "сістэму выбараў аднаго дэпутата з аднаго кандыдата, бо адбываецца, як у тым раі: Бог даў Адаму Еву і кажа: "Выбірай сабе жану". Вось амаль усе такія "жонкі" ад сельсавета да ЦК. Крыўдна, што з нас строяць дурняў". Крокаў дваццаць прайшлі моўчкі. Броўка загаварыў зноў: "Вось мы спрачаемся па дробязях, а пра самае галоўнае не думаем: хто нас будзе чытаць праз дзесяць гадоў. У школах наша мова ў загоне, начальства гаворыць на расійскім дыялекце, грэбуе прыгожаю роднаю моваю. Дзе б усім стаць на абарону беларускага слова, літаратуры і культуры. Маладая фронда, як некалі маладнякоўскія недавукі кідаліся ў "рожкі" са старымі, а тым "старым" Купалу і Коласу было па сорак гадоў, так некаторыя нашы дыпламаваныя "літаратураеды" з падручнікаў выкідаюць старэйшых аўтараў. У "Дружбе народаў" у аглядным артыкуле вядомы табе паэт-крытык нават у пераліку "забыўся" маё імя. У Броўкі нічога не паменела, а яму дадалося дурноты і пустой фанабэрыі. Ты ж ведаеш, пра каго кажу". І пажартаваў: "Калі вучоны мяне выключыў з паэтаў, дык спрабую пісаць прозу. Прыйдзем, сёе-тое пакажу". Я паўтарыў яго любімую прымаўку: "І няма чаго прыбядняцца. У цябе ж раман і ранейшая аповесць "Каландры". — "Каландры", — прызнаўся Пятрусь, — нарыс на патрэбу дня. Быў такі час, патрабавалі надзёншчыну, рыфмаваныя агіткі і лозунгі. Лірыка Кляшторнага прымусілі пісаць пра брукароў на барысаўскай дарозе, Маракова — пра Асінбуд. І пісалі. Трэба ж было неяк перабівацца. Дагаджалі, як умелі, і ўсё адно не ўратаваліся. За што іх знішчылі, і Богу невядома. Ты кажаш, пастралялі, а з тае ўстановы пішуць, што памерлі ад розных хвароб. Відаць, хлусяць, каб свае злачынствы спісаць на вайну".

Пасля капусты і дранікаў мы яшчэ доўга сядзелі ў "творчай галубятні". Пятрусь Усцінавіч чытаў новыя вершы і выдатна напісанае апавяданне з кнігі "Разам з камісарам". На змярканні ён праводзіў мяне да аўтобуснага прыпынку. Развіталіся, і ён, памахваючы кійком, шпарка пайшоў назад.

Былі яшчэ дзесяткі цікавых сустрэч і размоў, даверлівых і шчырых, але яны выпадалі радзей і радзей. Пятрусь змізарнеў, часта хварэў, але работы і клопатаў не пакідаў. Ён проста інакш не мог. Паехаў да маскоўскіх дактароў, яго паклалі ў бальніцу, складаную аперацыю зрабіў вядомы наш зямляк хірург Маліноўскі. Пацыент прысвяціў яму пранікнёны верш, і яны сталі добрымі сябрамі. Часта Пятрусь Усцінавіч трапляў на даследаванні і на "рамонт" у клініку на Чырвонаармейскай вуліцы. Я часта адведваў яго, але ніколі не чуў стогнаў і скаргаў, размоў пра свае хваробы. Ён пра ўсё распытваў, уважліва слухаў, даведваўся пра агульных знаёмых, літаратурныя справы. І ў бальніцы яго не пакідалі просьбіты. Аднойчы з усмешкаю расказаў, што прыходзіў да яго ў адведзіны адзін папулярны паэт і прасіў, каб ён пахадайнічаў аб вылучэнні яго ў дэпутаты Вярхоўнага Савета. Пасароміць яго не хацеў, а растлумачыў, што павінна вылучаць грамадскасць. Калі я сабраўся адыходзіць, Пятрусь сказаў, што ў нядзельным нумары "Праўды" будзе яго верш, прысвечаны подзвігу нашага земляка Трыфана Лук'яновіча, прасіў купіць газету і перадаць яму. Памкнуўся праводзіць мяне да дзвярэй палаты, але я ўгаварыў не ўставаць. Развіталіся, і я адчуў, што бачымся апошні раз.

Я купіў два экземпляры газеты. Турбаваць хворага не адважыўся, перадаў іх праз санітарку. Увечары па тэлефоне ад Петруся і сябе падзякавала Лёля. Пра стан Петруся я ўжо не распытваў, толькі перадаў прывітанне.

...Праз два дні Героя Сацыялістычнай Працы, народнага паэта Петруся Броўкі не стала. Развітваліся ў вялікай зале Дома афіцэраў. Увайсці і выйсці было цяжка: столькі было народу. Пахвілінна мянялася ганаровая варта — ад Машэрава да тае клінічнае санітаркі, што даглядала яго, як сына. Здавалася, свайго паэта ў апошнюю дарогу праводзіць уся сталіца.

Неўзабаве ўрад прыняў пастанову аб увекавечанні памяці Броўкі. Сярод мноства ўшанаванняў было вырашана ў апошняй кватэры адкрыць мемарыяльны музей. За яго стварэнне ўзялася сама хворая Алена Міхайлаўна. Неяк па тэлефоне яна прасіла прынесці здымкі з Петрусём і ўспаміны. Мы сядзелі ў былым кабінеце паэта. На стале ўсё было, як і пры ім: нібыта гаспадар выйшаў на хвілінку. Мы доўга ўспаміналі маладосць, інстытуцкіх сяброў, яна расказвала пра бацькоўскую любоў да Петруся Купалы і Коласа, паказвала агульныя здымкі, расказвала, як некалі ў тыя трывожныя гады было ім цяжка, як балелі душы за лёс зніклых сумленных і чыстых пабрацімаў па літаратуры і дружбе. Бедавала Алена Міхайлаўна, ці паспее зрабіць галоўнае для музея: збірала рукапісы, лісты, здымкі, кнігі, успаміны, адпраўляла мноства лістоў шчырым сябрам паэта...

Праз два гады не стала і Лёлі. Нібыта спяшалася да адзінага і самага любага. Яе пахавалі побач з мужам. Я часта адведваю мноства сяброў на Маскоўскіх могілках. Пачынаю абход з магілы Броўкаў. У памяці пракручваецца доўгая стужка ўспамінаў пра жывых і незабыўных Петруся і Лёлю.

Пятрусь Усцінавіч да апошняга дня быў вялікім аптымістам і летуценнікам. Ён марыў сустрэць новае стагоддзе, верыў, што яно прынясе шчасце.

**Гадоў пераж ытых не сцерці,**
**Ды новых прыходзіць чарод,**
**А як бы хацелася, верце,**
**Сустрэць мне двухтысячны год.**

Ён прыйшоў у нашы дні, прыйдзе і ў наступнае стагоддзе. Яго імя жыве ў памяці людзей розных пакаленняў, зробленае ім і сёння прыносіць вялікі плён, шчырая лірыка саграе сумленныя і чыстыя душы юных і сталых.

У залатую восень прыходжу на могілкі, доўга ўглядаюся ў закамянелыя, але, як жывыя, рысы паэта Петруся Броўкі. На бронзавыя плечы падаюць і прыстаюць кляновыя зоры. Як слёзы, з калінавых галінак капаюць чырвоныя кроплі на дарагое з маладосці імя Алены Міхайлаўны Броўка. Самотны іду далей і ўспамінаю, успамінаю. На памяць прыходзяць радкі Броўкі, прысвечаныя памяці друга-паэта: "Не магу пагадзіцца, што яго ўжо няма". І мне цяжка пагадзіцца, што ўжо не засталося сяброў маладосці.

Пакуль жыве і будзе жыць беларускае слова, жыве і будзе жыць Пятрусь Броўка і не змоўкне ў перакладах далёкіх і блізкіх сяброў. Будзе пахнуць чабор між чырвоных рабін, гучаць "Александрына", прыносіць асалоду маленькі малітоўнік любові "Ты — мая пчолка". Паэзія будзе жыць у вяках.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

Верасень 1996 г.
Іслач.

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№1—5.**

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ АНСАМБЛЬ ТАНЦА





**Дзяржаўны ансамбль танца Рэспублікі Беларусь беражліва захоўвае і ўзбагачае фальклорныя танцавальныя традыцыі беларускага народа. Створаны амаль сорак гадоў назад, ансамбль ужо многа гадоў з'яўляецца вядучым харэаграфічным калектывам рэспублікі. У яго праграме — традыцыйныя беларускія танцы і жанравыя кампазіцыі, а таксама танцы народаў, якія жывуць у Беларусі. Майстэрству танцораў ансамбля апладзіравалі ў Кітаі і Францыі, Італіі і Іспаніі, Германіі і Бельгіі. За апошнія дзесяць гадоў з беларускімі танцамі пазнаёміліся гледачы больш чым у сарака краінах свету. Тэмпераментныя выступленні ансамбля зачароўваюць гледача прыгожымі маляўнічымі касцюмамі, пяшчотнымі мелодыямі, амаль класічнай харэаграфіяй, віртуознымі трукамі, іскрыстым азартам выканання кожнай кампазіцыі.**

**Кіруе ансамблем заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Валянцін Дудкевіч, 35-годдзе творчай дзейнасці якога калектыў адзначыў вялікім канцэртам у Белдзяржфілармоніі.**

**НА ЗДЫМКАХ: артысты вітаюць свайго кіраўніка Валянціна ДУДКЕВІЧА; танцуюць салісты Дзяржаўнага ансамбля танца Рэспублікі Беларусь.**

**Фота Мікалая ПЯТРОВА.**



## БАЛЕТ НА РАДЗІМЕ ШАГАЛА

У яго гісторыі быў і вулічны брэйк, і афіцыёзна-камсамольскі "маладзёжны эстрадны танец", і па-карнавальнаму цудоўнае шоу з экзатычнай назвай "Белы сабака"... У мінулым 1996 годзе IX Міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі ў Віцебску аднадушна ацэнены прэсай як адна з самых буйных з'яў культурнага жыцця Беларусі.

"Еўрапейскі ўзровень" — гэтыя словы найбольш трапна адлюстроўваюць агульнае ўражанне. Дарэчы, гэты ўзровень забяспечваўся фінансавай падтрымкай з боку галоўных заснавальнікаў фестывалю: Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра і шматгадовага мецэната фестывалю — СП "Белвест".

У склад журы ўвайшлі Наталля Чарнюк (Беларусь), Ала Сігалава (Расія), Паскаль Жуст (Францыя), Кенжы Усуі (Японія), Сяо Сухуа (Кітай), Бенджамін Феліксдал (Галандыя). Узначаліў Міжнароднае журы конкурсу дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра балета Рэспублікі Беларусь, харэограф з сусветным імем Валянцін Елізар'еў.

150 заявак паступіла на адрас фестывалю — і толькі 19 балетных труп сталі ўдзельнікамі IFMC-96. У конкурсе ўдзельнічалі лепшыя калектывы з Расіі, Украіны, Малдовы, краін Балтыі і Кітая. Беларусь на фестывалі прадстаўлялі фальклор-тэатр "Госьціца" (Мінск), балетная трупа Іны Асламавай (Гомель), мадэрн-балет "Галерэя" (Гродна), група сучаснай харэаграфіі "ТАД" (Гродна). І хаця беларускія калектывы ўжо бывалі ў ліку прызёраў мінулых конкурсаў, апошні фестываль паказаў, што айчыннай сучаснай харэаграфіі ўсё ж чагосьці не хапае: у другі тур выйшла толькі "Галерэя" з харэаграфічнай мініяцюрай "Парафраз" і, не ўвайшоўшы ў лік пераможцаў, атрымала спецыяльную прэмію заснавальнікаў фестывалю "Перспектыва"... Што ўвогуле можна лічыць прычынай для аптымізму.

У намінацыі "Аднаактовы балет" асноўнымі сапернікамі сталі цікавыя расійскія калектывы: "Правінцыяльныя танцы" (Екацярынбург), "Балет Яўгенія Панфілава" (Перм) і "Кінетычны тэатр" (Масква). У выніку ўсе трое ўвайшлі ў лік пераможцаў. Праўда, першая прэмія ў гэтай намінацыі не засталася нікому.

Трохі нечакана для крытыкі і прэсы ўсе тры прэміі ў намінацыі "Харэаграфічная мініяцюра" атрымалі кітайскія танцоўшчыкі з "Guanqdonq Modern Dance Company".

Спецыяльнай прэміяй секцыі крытыкі і прэсы было адзначана майстэрства балета "Fine 5 Dance Theatre" з Таліна, спецыяльнай прэміяй заснавальнікаў фестывалю — "Балет Яўгенія Панфілава" за цудоўны метафарычны спектакль "Барабаны для Сусвету, а скрыпка для смутку", прысвечаны Марку Шагалу. Менавіта гэты калектыў быў запрошаны ў Віцебск, для ўдзелу ў летнім пленэры, прысвечаным віцебскаму Майстру.

**Іна КАЧАТКОВА.**

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

# БЕЛАРУСКІ ХЛАПЧУК — ТАЛЕНАВІТЫ РУСКІ МАСТАК

навучання ў Маскве яго зацікавілі вобразы рускага сімвалізму, дзякуючы якому Палякоў захапіўся ірацыянальнымі вобразамі таямнічага паганскага мінулага рускага народа. У карцінах "Пачвара" і "Макош" (абедзве 1989 года) мастак выказвае ўласныя ўяўленні аб вырадках гэтых істот і надае ім чалавекападобныя рысы. Скрозь змрочныя таямніча-напружаныя фоны праступаюць аблічы жанчын са страшэннымі (як у казцы) кіпцюрамі на пальцах ног і рук уяўнай пачвары; а багіню ўрадлівасці "Макош" ён падае ў аскетычным вобразе хударлявай жанчыны, размешчанай за высокім стогам збожжа. Тая ж тэма прысутнічае і ў карцінах "Гамаюн" (1991), "Люты" і "Гібель багоў" (абедзве 1990), "Прадчуванне казкі" (1993). Фальклорныя матывы пакладзены ў змест карцін "Лель" і "Лада" (абедзве 1996). Адлюстраваўшы свае ўяўленні аб паганскім мінулым рускага народа, мастак адначасова адлюстроўвае і рэальныя падзеі гістарычнага мінулага ўжо пасля прыняцця хрысціянства. У карціне "Доля" (1993) мастак дае свае ўяўленні аб часе нашэсця на старажытную Русь татара-мангольскіх ордаў. Карыстаючыся выявамі рэчаў, як сімваламі, што ўтрымліваюць пэўны змест, мастак піша разгорнутую па гарызанталі кампазіцыю. На змрочным чорным небе свецяць і ціха знікаюць зоркі над буйных памераў чырвоным прасліцам (сімвалам мірнай працы ў левай частцы) і над басурманам-захопнікам з чорнымі рукамі і тварам, узбіленымі ад жорсткасці валасамі на галаве, які сядзіць (сімвал заваёўніка ў правай частцы) ля вогнішча і нібы точыць на каменных жорнах кінжал. Да гэтай тэмы прымыкае і карціна "З глыбінь стагоддзяў" (1996).

Хвалюючь мастака і маральна-этычныя тэмы. Відавочна, што не адразу ён, хлапчук з Беларусі, упісаўся ў маскоўскае снобскае асяроддзе, мусіць яго доўга лічылі чужаком. Гэтым адносінам прысвечана карціна "Чужы" (1993), дзе мы бачым, як дробныя цёмнага колеру птушкі задзёўбваюць буйнога жоўта-вохрыстага птаха. Тэма марных маральных памкненняў чалавека палепшыць духоўны свет людзей адлюстравана ў карціне "Пропаведзь" (1996), у якой праступаюць профільныя выявы манаха (размешчаны з правага боку) у карычневай сутане, побач з якім ляжыць белая кніга на аналоі, манах прапаведуе біблейскія запаведзі нібы чалавеку, але ў сапраўднасці перад ім паўстае з цемры буйная псіная галава. Гэтыя кампазіцыі будуюцца па прынцыпу раўнавагі ў свеце дабра і зла.

Але наш мастак не аскет. Цікаўнасць да эратычна-сексуальных адносін паміж людзьмі адлюстравана ў арыгінальна закампанаваных і выключна прыгожых па каларыту карцінах "Метамарфозы" (1992), "Аракул" (1994), "Куміры" (1993). Хвараватае ўспрыманне мастаком сюррэалістычна трактаванага непрыемна тоўстага цела жанчыны, як "прарадзіцельніцы" чалавечага роду, выклікае складаныя пачуцці і ў гледача каля карціны "Аракул", і спачуванне да дзяўчынкі-падлетка, якая стала кумірам у апошнія гады для сексуальна "заклапочаных" мужчын у карціне "Куміры".

Пераказ тэм карцін мастака дае ўяўленні аб ім як чалавеку і грамадзяніне. Галоўнай рысай мастака з'яўляецца яго жывапісны талент як каларыста, які "піша жыва". Дык вось, у час вучобы С. Палякоў добра вывучыў каларыт старых майстроў жывапісу, асабліва рускіх іканапісцаў. І многія яго творы выпучаюцца дэкаратыўнай яскравасцю, асабліва пераліачныя вышэй.

**НА ЗДЫМКУ: С. ПАЛЯКОЎ. "Заклінанне парадзіх".**

(Заканчэнне на 8-й стар.).



*НАВУКОВЫ ПОШУК*

# У ДАБРАЎЛЯНАХ, ПРЫСТАНКУ МУЗ, У 1863 ГОДЗЕ...



Запушчаны старадаўні французскі парк у Дабраўлянах Гюнтэры перарабілі ў рамантычным стылі. Як і належала, там было мноства дзівосаў — гроты, альтанкі, статуі, усяго не пералічыць. Асабліва славіўся парк старымі надзвычай тоўстымі ліпамі, якія фігуравалі яшчэ, як і палац, у інвентары 1700 года. У маёнтку была экзатычная аранжарэя, адмысловы бровар, вадзяны млын.

І да сялян тут ставіліся лепш, як у суседніх маёнтках, — не выдзіралі апошнюю капейчыну, лячылі, вучылі грамаце і рамёствам.

Слава Дабраўлянаў разнеслася далёка. Тут любілі бываць знакамітыя сучаснікі І. Ходзька, А. Адынец, Я. Рустэм, Т. Зан, А. Кіркор, Э. Жалігоўскі, А. Бальнодзі і многія іншыя. Дабраўляны сталі сапраўдным прыстанкам муз, аазісам высокай духоўнасці і мастацкай культуры. Пра дабраўлянскія зборы прыхільна, а то і з захапленнем пісалі А. Пшэздзецкі ў віленскім "Атэнэуме" (1842), А. Кіркор у "Бібліятэцы варшаўскай" (1855).

Адам Гюнтэр не дажыў да адкрыцця Археалагічнай камісіі і музея старажытнасцяў у Вільні, але ў "Записках" Археалагічнай камісіі за 1856 год адзначаны яго ўклад у археалогію і музейную справу краю: "...в Дубровлянах покойный гр. Гинтер целую часовню украсил старинными латами, древним оружием и другими предметами". Тут ужыта старая форма назвы маёнтка (ад дубровы), але паступова яна ўсё больш набывала новае гучанне, у якім нібы падкрэсліваўся высокі маральны сэнс — Дабраўляны. Перад намі цікавы прыклад пераасэнсавання назвы. Зрэшты, трэба сказаць, і зыходная назва гучала няблага, хоць, можа, і больш ардынарна.

У Адама і Аляксандры Гюнтэраў былі тры дачкі — Мацільда, Іда і Габрыеля. Сыноў Бог не даў, але дочкі раслі на славу.

Пачнём з малодшай, вядомай у свой час паэтэсы і мемуарысткі. Гады яе жыцця: 1815—1869. Між іншым, чамусьці лічыцца, што Габрыеля Пузына (такое яе прозвішча па мужу) у Дабраўлянах і нарадзілася. "Urodzona 24 wrzesnia 1815 r. w Dobrowlanach", — чытаем у анталогіі польскай паэзіі. У 1995 годзе, калі адзначалася 180-годдзе пісьменніцы, наш "ЛіМ" таксама пісаў: "А родам яна з вёскі Дабраўляны, гэта цяперашні Смаргонскі раён". Між тым у сваіх мемуарах Габрыеля зазначыла, маючы на ўвазе сябе — малую: "Зіму 1816 года чатырохмесячная ўжо Альбіна Габрыелька бавіла з бацькамі ў Вільні. Народжаная таксама 24 верасня 1815 года, ахрышчаная вадой святаянскай...", гэта значыць, хрышчоная ў вядомым віленскім касцёле Св. Яна (універсітэцкім). Ды і не магла яна аніяк нарадзіцца ў Дабраўлянах па той простай прычыне, што гэты маёнтак Гюнтэры набылі толькі праз тры гады пасля яе з'яўлення на свет. Гэтая памылка або недакладнасць узнікла не так сабе, а выклікана тым, што жыццё паэтэсы сапраўды цесна звязана з Дабраўлянамі. Тут расла, гадавалася, сюды з прыемнасцю вярталася ў сталыя гады. Яшчэ ў ранняй маладосці яна, як успамінала ў мемуарах, з захапленнем працавала над вялікай "Паэмай пра Дабраўляны" ў чатырох частках адпаведна з чатырма порамі года. Як бачым, гэта была маштабная творчая задума ў духу тагачаснай літаратурнай моды. Дабраўлянамі пазначаны вершы Габрыелі "Развітайцеся" (1838) і "Фіялкі ўзімку" (1841), перадрукаваныя ў анталогіі польскай паэзіі XIX стагоддзя (1961). У гэтай жа анталогіі яе верш "Адаму Міцкевічу" (1842). Пасылаючы вялікаму паэту за мяжу флакон вады з Нёмана і букецік айчынных кветак, Габрыеля ўзнёсла называла свайго адрасата і духоўнага настаўніка "ліцвінам", а сябе "ліцвінкай". Гэтыя словы заўсёды гучалі ў яе пасабліваму, напаўнялі яе сэрца гордасцю.

Апрача вершаў, Габрыеля пісала прозу і драматургічныя творы, якія ставіліся на віленскай



сцэне, стварыла арыгінальную кніжку "Літоўскія дзеці, іх слоўцы, адказы, назіранні" (1847), дзе, як зазначыў А. Пяткевіч, "выявіла паэтычны свет дзяцей беларускай вёскі". Г. Пузына здолела заняць хоць і сціплае, але годнае месца сярод паэтаў і пісьменнікаў беларуска-літоўскага краю той эпохі. Сын вялікага паэта Уладзіслаў Міцкевіч, знаўца свету і літаратуры, які сустракаўся з Габрыеляй у 1861 годзе падчас падарожжа на радзіму, зрабіў у сваіх мемуарах шматзначную параўнанне: "Французскі паэт Мюсэ так вызначыў сваю творчасць: "Мая шклянка малая, але п'ю з уласнай шклянкі". Шклянка княгіні Габрыелі была таксама невялікая, але цалкам ёй належала". Гэта было прызнанне арыгінальнасці творчага даробку паэткі, яе адметнага голасу, самабытнага месца ў літаратуры.

Адзін з адукаваных віленцаў успамінаў у 1884 годзе ў часопісе "Край": "Арыстакратка паводле імя, багацця і прыяцельскіх сувязяў, сэрцам і розумам пані Габрыеля была самай гарачай дэмакраткай, прыхільніцай літоўскага люду, яго паданняў і звычаяў — Сыракомля жаночага роду". Зноў трапнае параўнанне. І яна сапраўды сябравала з Сыракомлем, перапісвалася, сустракалася з ім. У прыватнасці, іх збліжала захапленне беларускім фальклорам, мудрай прастатой народнай песні. У кнізе Г. Каханоўскага, Л. Малаш, К. Цвіркі "Беларуская фалькларыстыка" (1989) прыведзены фрагменты перапіскі двух паэтаў. У пісьме да Габрыелі Сыракомля гаварыў аб мастацкай дасканаласці беларускай песні. І паэтка пагаджалася, "што без гэтай песні, без народнай творчасці пісьменнік не можа абысціся". Аб цікавасці Габрыелі і яе акружэння да тагачаснай маладой беларускай літаратуры і, у прыватнасці, да творчасці Дуніна-Марцінкевіча сведчыць спіс падпісчыкаў на марцінкевічаўскі пераклад "Пана Тадэвуша" (1859). У спісе знаходзім: "Пузына Тадэвуш, князь". Гэта муж Габрыелі.

Вялікі ўклад Г. Гюнтэр-Пузына зрабіла ў мемуарыстыку краю. Яна пакінула два велізарных тамы рукапісных мемуараў, у якіх вытанчаным пяром год за годам, як руплівы летапісец, апісала сваё ўласнае жыццё, а яшчэ больш жыццё свайго акружэння за 1815—1867 гады. Называўся рукапіс па-пісьменніцку сцісла і вобразна — "Мая Памяць". Гэта не толькі хроніка вузкасямейных падзей, а выдатная панарама культурнага жыцця краю за ўказаны перыяд. У 1928 годзе першы том мемуараў быў выдадзены вядомай віленскай выдавецкай фірмай Завадскага пад назвай "У Вільні і ў літоўскіх дварах" (1815—1843). Там шмат расказана і пра Дабраўляны, пра добраўпарадкаванне гэтага цудоўнага беларускага кутка пры Гюнтэрах, пра шматлікіх гасцей, у тым ліку пілігрымаў з дальніх старон, якія шукалі гармоніі і натхнення пад славутымі дабраўлянскімі ліпамі. У нашы дні (1990) было рэпрынтнае перавыданне гэтага тома ў Кракаве. Гэта зноў жа гаворыць пра даўгавечную культуралагічную каштоўнасць і актуальнасць мемуарных сведчанняў Габрыелі. На жаль, другі том так і не выйшаў, а сам рукапіс загінуў у Варшаве ў гады другой сусветнай вайны. Балазе, што ў рукапіс мемуараў, як і ў іншыя матэрыялы Габрыелі, паспеў зазірнуць вядомы краязнавец Чэслаў Янкоўскі, які прысвяціў паэтцы і Дабраўлянам шмат цудоўных старонак у сваёй выдатнай манаграфіі "Ашмянскі павет" (т. 2, 1896). Да гэтай кнігі мы будзем сяды-тады звяртацца.

Габрыеля ўнаследавала калекцыянерскія схільнасці бацькі, як і ён, руплівa — "зярно к зярняці" — збірала ўсялякія гістарычныя памяткі. Чэслаў Янкоўскі пісаў: "Няменш цікавыя, чым Silvarerum графа Гюнтэра, — разнастайныя альбомы-штамбухі Габрыелі Пузыны, у якіх пакідалі свае подпісы, крэслілі прозу і вершы самыя разматыя асобы, з якімі паэтку лучыла цеснае сяброўства або мімалётнае знаёмства. Дабраўлянскія госці — а колькі ж іх было! — віленскія знаёмыя, гаспадары і гаспадыні наведаных двароў, свае і чужыя, сустрэтыя ў паездках у Варшаву, у Кракаў, за мяжу — усе прыносілі сваю даніну на лісты штамбуха, а як толькі адзін запаўняўся да краёў, адразу ж у руках Габрыелі з'яўляўся новы, яшчэ саліднейшы памерамі, каб панове мастакі маглі ў ім з большым размахам разгарнуць малюнкі і накіды, а панове музыкі маглі накрэсліць у ім працяг памятных тактаў".

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Адам ГЮНТЭР. З партрэта Яна ДАМЕЛЯ; Габрыеля ГЮНТЭР-ПУЗЫНА.**

Працяг. Пачатак у № 5.

## «СУПЕРМАДЭЛЬ МІНСК-97»





**У канцэртнай зале "Мінск" адбылося конкурснае шоу "Супермадэль Мінск-97". Конкурс праходзіў у пяці намінацыях — "Подыумныя мадэлі", "Маленькія мадэлі", "Поўныя мадэлі", "Мужчыны" і "Гладыятары". Усяго ў шоу прыняло ўдзел 25 канкурсантаў. Арганізавала гэтае свята Рэкламнае агенцтва мадэлей Сашы Варламава. Тытул "Супермадэль Мінск-97" заваявала 16-гадовая мінчанка Таццяна Філіпава.**

**НА ЗДЫМКАХ: пераможцы конкурсу ў пяці намінацыях (злева направа) Віталь АНІСКЕВІЧ, Юлія ВЫГОЎСКАЯ, Таццяна ФІЛІПАВА, Андрэй МЯЖЭННЫ і Ігар ВЫСОЦКІ; пераможца конкурсу "Супермадэль Мінск-97" Таццяна ФІЛІПАВА.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

# БЕЛАРУСКІ ХЛАПЧУК — ТАЛЕНАВІТЫ РУСКІ МАСТАК

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Між тым, у 1991 годзе жывапісныя схільнасці мастака значна пашырыліся. Колеравая пластыка стала пераважаць нават над тымі пункцірнымі — сімвалічнымі рэаліямі чалавечага быцця, што наглядаліся ў яго раней. У гэты год ён стварыў праграмны твор "Ноч Купалы". На буйных памерах гарызантальнай кампазіцыі мастак падае ўласнае ўяўленне аб падзеях гэтай ночы, якія адбываліся ў паганскія часы. Зачароўвае непасрэднасць мастака і жывапісная раскаванасць, з якой ён піша мажорную чырвона-залацістую сімфонію купалаўскага начнога дзейства. Скрозь нібы цалкам абстрактныя віхурыстыя напружанні багата нюансіраванай каларыстычнай гамы дапытлівы глядач угадвае чорны профіль твару і згорбленай спіны казачнай вядзьмаркі, што сядзіць каля жоўта-ружовага вогнішча, і нават яе чорную руку-кульбу; чорныя камялі дрэў на фоне далёкіх кастрышчаў, запаленых у іншых месцах лесу, дзе таксама адбываецца купалаўскае дзейства. Гэтая сцэна падаецца з правага боку карціны. З левага боку карціны — нас заварожваюць чырвона-залацістыя колеры рускага жаночага касцюма, яго вышываная арнаментыка на ўздыбленых танцавальнай віхурай палотнішчах рускіх сарафанаў; дзявочыя галаўныя павязкі-стужкі, кінутыя ў ціхую гладзь цёмнай вады, і мажорная чырвона-аранжавая пластыка жаночага касцюма, які з'яўляецца высотнай дамінантай гарызантальнай кампазіцыі. Умысловая віхурыстасць каляровага патока падкрэслівае высокі эмацыянальны стан мастака ў час малявання, які выпраменьваецца на зачараванага гледача.

Пасля паездак у далёкае замежжа С. Палякоў пачынае цікавіцца сучасным абстрактным мастацтвам і стварае шэраг карцін у гэтай стылістыцы: у 1995 годзе — "Двое", "Сцыла і Харыбда", "Глыток вады", "Фантазія", "Смутак"; у 1996 годзе — "Меланхолія", "Асалода", "Вечны вандроўнік", "Шарык паляцеў", "Змей", "Той, хто пайшоў", якія вабяць рафініраванасцю і згарманізаванасцю каларыстычных плям, пластыкай віхурыстых і спакойных ліній, усплёскамі незвычайных колеравых спалучэнняў фіялетава-сініх, ружова-бела-зеленаватых, жоўта-лімонных з чырвона-аранжаваымі і белымі.

Гэтыя карціны можна назваць бліскучай жывапіснай сімфоніяй С. Палякова. Нягледзячы на рэалістычную скіраванасць твораў яго настаўніка — Ілы Глазунова, С. Палякоў праявіў пэўную самастойнасць мастакоўскага мыслення, мастакоўскую раскаванасць і незалежнасць, шчырасць успрымання як рэалій быцця, так і рэалій уяўнага сусвету, што прынесла яму поспех у гледача многіх краін.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**





**НА ЗДЫМКАХ: С. ПАЛЯКОЎ. "Лель" ; "Двое".**

**Фота Віктара СТАРАВЕРА.**

*ДА 115-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Янкі КУПАЛЫ*

## ДЗЕ ТЫ, ХМЕЛЮ, ЗІМАВАЎ?..

*Словы Янкі КУПАЛЫ* *Музыка Міколы ЯЦКОВА*




**Дзе ты, хмелю, зімаваў,**
**Што не развіваўся!**
**Дзе ты, сынку, начаваў,**
**Што не разуваўся!**

**Прыпеў:**

**Зімаваў я ў старане,**
**Дзе віхуры дзьмулі;**
**Начаваў я на вайне,** ] 2р.
**Дзе гуляюць кулі.** ]

**Дзе ты, хмелю, ўлетку цвёў,**
**Што засох без следу!**
**Дзе ты, сынку, дзень правёў,**
**Што і не абедаў!**

**Прыпеў:**

**Цвёў я ўлетку, дзе пякуць**
**Спекі агнявыя;**
**Дзень правёў я, дзе гудуць** ] 2р.
**Як грымот, гарматы.** ]

**Чаму, хмелю, не адну**
**Зносіў сцюжу, спеку!**
**Чаму, сынку, на вайну**
**Шоў ты ў небяспеку!**

**Прыпеў:**

**Доля кінула мяне**
**Гінуць так, як гіну;**
**Ваяваў я на вайне** ] 2р.
**За сваю краіну.** ]

## ВЫРАЙ НА БАЛКОНЕ

Каля паўсотні шпакоў, што не адляцелі на поўдзень, аблюбавалі балкон кватэры адной з жыхарак Брэста, якая пражывае на Партызанскім праспекце.

Месца сваёй "дыслакацыі" яны выбралі не выпадкова: на балконе захоўваецца рознае насенне і ёсць чым пажывіцца.

Паводле слоў дасведчаных арнітолагаў, выпадкі зімоўкі шпакоў даводзілася назіраць на Брэстчыне і раней. Звычайна невялікімі групамі яны асталёўваліся на жывёлагадоўчых фермах. Такая ж колькасць, як сёлета, — выпадак па-свойму унікальны, тым больш для горада.

**Рэдактар**
**Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС:**
**220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 169. Падпісана да друку 3.2.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.**